ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

ГА «БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ЖУРНАЛІСТАЎ»
THE BELARUSIAN ASSOCIATION OF JOURNALISTS
№ 2 (116) 2016

## «Лічбавы айсберг» як стымул для развіцця

Нашай прафесіі непазбежна давядзецца змяніцца

## Блогеры супраць СМІ

Блогеры ўпэўненыя, што інфармацыйны свет фарміруюць яны, а журналісты прысабечваюць чужую славу!

## «Рэцыдывіст» ад журналістыкі

Кастусь Жукоўскі — рэкардсмен па колькасці штрафаў




# У «Вольным слове» бярэ ўдзел рэкордная колькасць журналісцкіх прац

Больш за дзевяноста журналістаў падалі свае творы для ўдзелу ў творчым конкурсе «Вольнае слова», які шмат гадоў запар праводзіць ГА «БАЖ».

Сябры журы павінны ацаніць амаль трыста прац у пяці традыцыйных намінацыях.

*— Пэўнай нечаканасцю для мяне стала такая вялікая колькасць прац. На мой погляд, гэта сведчыць пра тое, што беларускія журналісты разумеюць неабходнасць захавання і дэманстрацыі стандартаў журналістыкі. Цешыць і тое, што шмат прац на конкурс прыходзіць з рэгіянальных выданняў,* — адзначыў старшыня журы Юрась Карманаў.

Конкурс «Вольнае слова» праводзіцца сёлета ўжо ў дзявяты раз.

Вынікі яго па традыцыі агучаць 3 мая — у Сусветны дзень свабоды прэсы.

Паводле прэс-службы
ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»

ТРЫМАЙСЯ ПРАЎДЫ!

# АБАЖУР

№ 2 (116) 2016



**Выдавец:** ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»
Перыядычнасць: 1 раз у 3 месяцы
Выдаецца са снежня 2000 г.

**Галоўны рэдактар**
Уладзімір Барысавіч Дзюба

Здымак на першай старонцы вокладкі Міколы Бянько, на апошняй — Сяргея Балая

Выданне зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэгістрацыйны № 833 ад 04.12.2009.

Падпісана да друку 20.03.2016.
Дата выхаду 13.04.2016.
Фармат 60х84/8.
Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк.
Наклад 500 асобнікаў.
Заказ №
Распаўсюджваецца бясплатна.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, г. Мінск,**
**вул. Камсамольская, 7—32.**
**Тэл./факс: (017) 203-63-66,**
**(029) 126-70-98**
**E-mail: abajur@baj.by,**
**baj@baj.by**
**Сайт: www.baj.by**

Друкарня ТАА «МЕДЫСОНТ»
ЛП № 02330/0552782 ад 01.10.2010 г.
Адрас: 220004, г. Мінск, вул. Ціміразева, 9.
Тэл.: (017) 203-74-10, 203-53-41,
(029) 623-74-10
medisont@gmail.com
www.medisont.com

У адпаведнасці з Законам аб друку аўтары нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, прыведзеных у артыкулах.

Рэдакцыя можа публікаваць матэрыялы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтараў.

# «Рэцыдывіст» ад журналістыкі



**Кастусь Жукоўскі паспявае займацца і журналістыкай, і грамадскай дзейнасцю, і абаронай уласных правоў. Мясцовыя сілавікі ўспрымаюць ягонае прозвішча як сінонім слова «апазіцыянер». Зрэшты, пераконваць іх у адваротным Жукоўскі і не збіраецца.**

*Кастусь Жукоўскі — рэкардсмен па колькасці штрафаў за працу без акрэдытацыі*



Яго прыватны дом у цэнтры Гомеля апынуўся ўціснутым паміж саўковымі шматпавярховікамі. Над домам лунае бел-чырвона-белы сцяг, а з вакна, што выходзіць на гарадскую турму, у любы час сутак паглядае Уладзімір Някляеў. Дакладней, плакат з выявай паэта і палітыка. Някляеў ў поўны рост госціць тут яшчэ з прэзідэнцкіх выбараў 2010 года.

Многія лічаць Кастуся чалавекам неардынарным. Яго імя стала вядомым гомельскай грамадскасці дзесьці ў 2007 годзе, калі ён актыўна займаўся расследаваннем абставін узнікнення аднаго з пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій. Тады інфармацыя пра брацкую магілу ў Шчакатоўскім лесе, што непадалёк ад Чарнігаўскай шашы, скалыхнула медыяпрастору. Неўзабаве Кастусь Жукоўскі разам з паплечнікамі зняў на аматарскую відэакамеру дакументальную стужку «Лінія Сталіна. Гомельскі рэгіён». Жыхары навакольных вёсак пацвердзілі версію грамадскіх актывістаў пра злачынствы НКУС. Відаць, з гэтага моманту мясцовыя спецслужбы і ўзялі «пад кантроль» не ў меру актыўнага грамадзяніна.

Потым быў перыяд грамадска-палітычнай дзейнасці: Кастусь збіраў подпісы за апазіцыйных кандыдатаў, ладзіў антыалкагольныя футбольныя турніры, ствараў мясцовы інтэрнэт-рэсурс. На жыццё ў той час ён зарабляў седзячы за стырном таксі, а яшчэ будаваў дахі. Раз-пораз дапамагаў у падрыхтоўцы відэасюжэтаў мясцовым фрылансерам.

## «Назад дарогі няма»

«Дарогі назад у мяне няма. Нават калі б я цяпер вырашыў цалкам адмовіцца ад супрацьстаяння з уладамі, хто ж мне паверыць?» — жартуе Кастусь.

Калегі адзначаюць баявы характар тэлеаператара. Ён смела і ўпэўнена адчыняе дзверы ў кабінеты чыноўнікаў, асвятляе менавіта тыя сацыяльна-эканамічныя тэмы, якія ўлада замоўчвае. Што, зразумела, выклікае зубны скрыгат у прадстаўнікоў мясцовай вертыкалі.

Былая актыўная грамадская дзейнасць пакінула журналісту-фрылансеру добрую спадчыну — шматлікія кантакты з ініцыятыўнымі людзьмі літаральна ва ўсіх рэгіёнах Гомельшчыны. Часта інфармацыя з глыбінкі становіцца падставай для вандровак. Кастусь праязджае дзясяткі і нават сотні кіламетраў, каб падрыхтаваць відэасюжэт. Навыкі таксіста спатрэбіліся.

Мы сядзім ва ўтульнай кухні, дзе шмат плакатаў на гістарычную тэму. Лядоўню ўпрыгожваюць магніты з лагатыпамі шматлікіх грамадзянскіх кампаній, якія раней арганізоўваў Жукоўскі. Некалі, вярнуўшыся ў Гомель пасля працы на будоўлях Масквы, ён набыў напалову пагарэлую драўляную хату. Паступова сваімі рукамі ператварыў руіны ў прыстойны гарадскі катэдж. Кастусь кажа, што мог бы зарабляць на жыццё і фізічнай працай, якой ён не цураецца і дагэтуль. Аднак лёс нечакана ўцягнуў у журналістыку.

«Я з дзяцінства дабіваўся справядлівасці. Мог увязацца ў бойку, калі бачыў ману і хлусню. Потым адвучыўся на юрысконсульта. Відаць, гэта і з’яўляецца вытокамі маёй актыўнасці ў журналістыцы», — распавядае Кастусь.

Я ж раблю заўвагу пра рэнамэ «грамадскага актывіста», якое яго пераследуе да сённяшняга часу, і ён у нейкай ступені пагаджаецца.

— У Беларусі, як мне здаецца, вельмі складана правесці дакладнае размежаванне незалежнай журналістыкі і грамадскага актывізму. Часта бывае так, што менавіта грамадскі розгалас і ўвага СМІ могуць вырашыць пэўную сацыяльную праблему, на якую ўлады гадамі заплюшчвалі вочы. У гэтым сэнсе я, вядома, не развітаўся з грамадскім актывізмам.

А яшчэ суразмоўца называе сябе журналістам-аматарам: «Спецыялістам можна сябе лічыць, калі ты дасягнеш высокіх вынікаў у пэўнай сферы. Мяркую, каб называць сябе прафесіяналам, недастаткова мець жаданне, гуманітарную адукацыю альбо імкненне да справядлівасці. У аўтамабілістаў, калі праводзіць аналогію, ёсць некалькі катэгорыяў. Калі ўзяць правы кіроўцы, то я адчуваю сябе ўладальнікам катэгорыі «В», то бок аматарам. А дзесьці побач шчыруюць сапраўдныя прафесіяналы! — смяецца Жукоўскі. — Калі

сур'ёзна, то ў Гомелі ёсць некалькі таленавітых журналістаў, якія вельмі прафесійна і адказна робяць сваю працу, але іх можна пералічыць па пальцах. Сябе ж я лічу аматарам, фрылансерам, які здымае рэальнае жыццё, то бок тое, што бачыць».

***Ягоныя відэасюжэты пра спыненне працы вытворчых прадпрыемстваў, невыкананне абяцаных уладай сацыяльных стандартаў, галечу людзей разбураюць міф пра так званую сацыяльную дзяржаву.***

## Прычыны пераследу

На сёння Кастусь Жукоўскі рэкардсмен па колькасці адміністратыўных штрафаў. Яго вінавацяць у «незаконным вырабе інфармацыйнай прадукцыі» без акрэдытацыі. Агульная сума, якую ён мусіць выплаціць дзяржаве, на час падрыхтоўкі «А» перасягнула 70 мільёнаў беларускіх рублёў.

Пераслед фрылансера адбываецца па напрацаванай беларускімі сілавікамі схеме. Пасля выхаду відэасюжэта на спадарожнікавым тэлеканале «Белсат» міліцыянты апытваюць герояў матэрыяла, якія вымушаны даваць тлумачэнні. На гэтай падставе пачынаецца адміністрацыйная вытворчасць, якая вядзе да судовага працэса з загадзя вядомым фіналам. Парадокс, аднак важкія аргументы, спасылкі на міжнародныя абавязацельствы Беларусі ці законы, якія гарантуюць свабоду слова, тут не працуюць.

Кастусь Жукоўскі кажа, што пра сапраўдныя прычыны пераследу ён можа толькі здагадвацца. Але выказвае меркаванне, што ягоныя відэасюжэты пра спыненне працы вытворчых прадпрыемстваў, невыкананне абяцаных уладай сацыяльных стандартаў, галечу людзей разбураюць міф пра так званую сацыяльную дзяржаву. А яшчэ, на думку журналіста, у крытычных матэрыялах ён мог «падпсаваць аўтарытэт» камусьці з вертыкалі, за што яму і помсцяць.

«Што да міліцыянтаў, якія ўвесь час гойсаюць па маіх слядах, то магу сказаць, што ў Гомелі гэтыя таварышы даўно ўжо растапталі сваё сумленне. Кажу пра гэта, бо досыць часта з імі даводзіцца сутыкацца. Такое адчуванне, што для іх указанне начальства больш важнае за Канстытуцыю краіны. Па ўсім відаць, што сумленне яны лічаць непатрэбным комплексам, ад якога трэба пазбаўляцца», — гаворыць пра бурную «дзейнасць» гомельскіх праваахоўнікаў фрылансер.

У рэгіёнах, паводле яго словаў, яшчэ сустракаюцца міліцыянты, якім сорамна за тое, што вымушаны займацца палітычным пераследам. «Калі казаць пра правінцыйных міліцыянтаў (а я ў асноўным у рэгіёнах працую), якія ўпершыню фабрыкуюць супраць мяне пратаколы, то бачна, што ім сорамна. Разы два бачыў у іх вачах такі сум… ледзь не слёзы. Але гэта былі супрацоўнікі аховы», — распавядае Кастусь.

Па некалькіх адміністрацыйных справах з дапамогай юрыстаў Беларускай асацыяцыі журналістаў Жукоўскі прайшоў усе ступені ўнутранай абароны. Апошняй інстанцыяй, куды звярталіся ў пошуках справядлівасці, быў Вярхоўны суд. Але нідзе і ні разу людзі ў мантыях не абаранілі журналіста — ужо некалькі гадоў запар у нашай дзяржаве дзейнічае забарона на працу журналістаў без акрэдытацыі. Што, зразумела, пярэчыць нормам Канстытуцыі і дыскрэдытуе нашу краіну на міжнародным узроўні.

Адна з адміністрацыйных справаў, якая скончылася для Жукоўскага буйным штрафам, ужо зарэгістраваная ў Камітэце ААН па правах чалавека. Неўзабаве беларускі ўрад будзе вымушаны даваць тлумачэнні, чаму карэспандэнта падчас выканання прафесійных абавязкаў прыраўнялі да ўдзельніка несанкцыянаванай грамадзянскай акцыі. Размова пра пікет светлагорскага інваліда-вазочніка Юрыя Ляшэнкі. Як звычайна, усё скончылася затрыманнем удзельніка пікета ды журналістаў Кастуся Жукоўскага і Ларысы Шчыраковай.

## Сваякі і эміграцыя

Пераслед міліцыянтаў, судовыя разбіральніцтвы, штрафы — усе гэтыя непрыемнасці не могуць не адбівацца на адносінах са сваякамі.

— Мая жонка ўжо прызвычаілася да таго, што ў яе доля такая. Яна ўжо не здзіўляецца




*Кастусь называе сябе фрылансерам, аматарам, які здымае рэальнае жыццё*

ўсім нечаканасцям ды праблемам. А вось некаторыя сваякі, на жаль, парагледзелі стасункі з намі. На кагосьці ціснулі супрацоўнікі КДБ, якія прыходзілі да іх на працу. Хтосьці, напрыклад, увогуле перастаў тэлефанаваць, каб іх не западозрылі ў сувязях з «апазіцыянерам», — распавядае Кастусь. — Але цяпер сітуацыя мяняецца ў звязку з эканамічным крызісам. У людзей паволі раскрываюцца вочы на многія праблемы ў краіне. Аднак адсоткаў 90 людзей, з якімі я тым ці іншым чынам сустракаюся, дагэтуль баяцца.

Пытаюся, ці не ўзнікае жаданне кінуць усё ды эміграваць?

— Шмат маіх знаёмых з'ехалі з Беларусі, бо не бачылі тут перспектываў, — адказвае Кастусь. — У асноўным іх падштурхнула да такога рашэння неспрыяльная эканамічная сітуацыя. Некаторыя пераехалі са сваімі сем'ямі ў Расію. Хтосьці знайшоў свой новы дом у краінах Еўразвяза. Але ў любым выпадку гэта вялікая трагедыя, калі людзі вымушаныя пакідаць радзіму. Як правіла, з'язджаюць лепшыя — тыя, хто не сядзіць на месцы і не чакае дапамогі ад дзяржавы. Што да мяне, то я пакуль не разглядаю варыянта з эміграцыяй. З'язджаць буду толькі тады, калі адчую непасрэдную пагрозу майму жыццю.

Кастусь Жукоўскі ўдзячны Беларускай асацыяцыі журналістаў за падтрымку. «Салідарнасць адчуваецца з боку кіраўніка гомельскай рэгіянальнай суполкі Анатоля Гатоўчыца. Калегі таксама прыходзяць раз-пораз у суды, каб падтрымаць. З Мінска чую словы падтрымкі і скажу, што ў БАЖ я прыйшоў адмыслова. Гэта была адна з арганізацый, куды я насамрэч хацеў трапіць і не расчараваўся», — заўважае журналіст.

На развітанне я спытаў у суразмоўцы, ці не знікла ў яго жаданне займацца журналістыкай. Бо адчуваць з боку ўладаў пастаянны ціск ды пераслед — цяжкая доля.

«Ведаеце, усе затрыманні, суды, штрафы — гэта ўсяго толькі акалічнасці працы. Тут з майго боку няма ніякага гераізму. Тое ж самае, калі б міліцыянт, скажам, адмовіўся выходзіць на дзяжурства толькі таму, што яго падчас службы, калі давядзецца бараніць чалавека, могуць забіць.

Я выбраў незалежную журналістыку і не лічу, што гэта нейкі подзвіг. Гэта вецер, які дзьме ў твар, і ты ведаеш, што ён будзе дзьмуць пастаянна з пераменнай сілай. Трэба проста рабіць сваю працу, і ўсё будзе добра», — падсумоўвае Кастусь.

Мікола БЯНЬКО
Фота аўтара

# Біць альбо



**За два дзясяткі год сярод міліцыянтаў выгадавалася не адно пакаленне супрацоўнікаў, якія, мякка кажучы, непрыязна ставяцца да ўсяго, што ўяўляе сабой альтэрнатыву дзяржсістэме — да апазіцыі, грамадскіх актывістаў і незалежных журналістаў.**

# не біць


Сямён ПЕЧАНКО

Вось вам сітуацыя: супрацоўнікі праваахоўных органаў хапаюць журналіста ў калідоры суда, цягнуць у кабінет, зачыняюць за сабой дзверы і пачынаюць збіваць яго нагамі. Потым суддзя прызнае пабітага журналіста вінаватым у супраціве праваахоўнікам і дае небараку штраф.

А зараз уявіце, што ўсё гэта адбываецца ў Лондане. Лухта нейкая, праўда? Але тое, што падаецца неверагодным дзікунствам у цывілізаванай краіне, у Беларусі ўжо дваццаць гадоў з'яўляецца негалосней нормай. Таму збіццё журналіста Паўла Дабравольскага проста ў судзе, па вялікім рахунку, не мусіць нас здзіўляць.

## Збіццё ў судзе: дзве версіі здарэння

Для пачатку прыгадаем некаторыя падрабязнасці скандала. 25 студзеня ў Мінску карэспандэнта партала TUT.BY Паўла Дабравольскага пры выкананні ім прафесійных абавязкаў збілі супрацоўнікі міліцыі.

Журналіст асвятляў ход судовага працэсу па «справе графіцістаў» у судзе Фрунзенскага раёна. На яго склалі два пратаколы — паводле арт. 17.1 «Дробнае хуліганства» і 23.4 «Непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы» КоАП.

У той жа дзень суд Фрунзенскага раёна аштрафаваў журналіста на 9 450 000 беларускіх рублёў.

Па версіі Паўла, ён знаходзіўся ў будынку суда за дзвярыма залы пасяджэнняў. Калі з залы вывелі актывістаў Паўла Сяргея і Максіма Шыціка, якія разгарнулі ў судзе пратэстныя плакаты, Павел Дабравольскі пачаў здымаць затрыманне на мабільны тэлефон і пайшоў за групай у калідор. Там яго разам з затрыманымі ўпіхнулі ў пакой, зачынілі дзверы і збілі. Збівалі супрацоўнікі АМАП у цывільным, якія сведчылі пазней супраць затрыманых у судзе.

Міліцыянты не звярнулі ўвагі на журналісцкае пасведчанне Паўла. Больш за тое, паводле слоў журналіста, яго пачалі збіваць пасля таго, як ён прадэманстраваў пасведчанне.

Павел зняў пабоі, перадаў у Следчы камітэт парваную вопратку і мабільны тэлефон. Ён прайшоў працэдуры абскарджвання ў некалькіх судах, але безвынікова. Застаўся Вярхоўны Суд.

Паводле версіі міліцыянтаў, Павел перашкаджаў ім выводзіць з залы суда затрыманых парушальнікаў, аказваў супраціў і нецэнзурна лаяўся, што і вымусіла іх прымяніць сілу.

8 сакавіка ў інтэрв'ю праграме «Контуры» тэлеканала АНТ міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч заявіў, што праверка па факце здарэння практычна завершана.

«Магу сказаць адно: для супрацоўніка органаў унутраных спраў усе грамадзяне роўныя… Журналіст не павінен быць бокам канфлікта, ніякага», — падкрэсліў міністр.

## Рэакцыя калег

Інцыдэнт у судзе выклікаў розгалас у журналісцкім асяродку. Каля двухсот калег Дабравольскага падпісаліся пад калектыўным пісьмом да міністра інфармацыі Ліліі Ананіч, у якім прасілі чыноўніцу выказаць сваю пазіцыю адносна недапушчальнасці перашкодаў прафесійнай дзейнасці журналістаў, рэалізацыі права грамадзян на атрыманне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі і давесці яе да МУС і ўсіх яго структурных падраздзяленняў.

У звароце журналісты звярнулі ўвагу на відавочнае парушэнне заканадаўства з боку міліцыянтаў.

Міністр у адказе на зварот падкрэсліла, што ў журналістаў акрамя гарантаваных Канстытуцыяй правоў ёсць яшчэ абавязкі трымацца законаў. Далей чыноўніца спаслалася на атрыманую ў МУС інфармацыю пра інцыдэнт ў судзе, паводле якой Павел Дабравольскі «перашкаджаў супрацоўнікам міліцыі выконваць свае службовыя абавязкі».

Пасля чаго Ананіч падкрэсліла, што дзейнасць журналіста павінна здзяйсняцца ў строгай адпаведнасці з заканадаўствам.

Што найперш прыцягвае ўвагу ў адказе Ліліі Ананіч: міністэрства інфармацыі не стала чакаць вынікаў праверкі з СК і пракуратуры і фактычна выступіла на баку аднаго з удзельнікаў канфлікту — МУС. Такая пазіцыя ведамства нагадвае палітычна матываваныя суды над грамадскімі актывістамі, у часе якіх суддзя не знаходзіць падстаў не верыць сведчанням міліцыянтаў і не бярэ да ўвагі словы падсуднага і яго сведак.

Журналісты не задаволіліся адказам з мінінфармацыі і сабралі яшчэ некалькі соцень подпісаў. Група прадстаўнікоў незалежных выданняў асабіста перадала подпісы міністру Ананіч і пагутарыла з ёй. Але пазіцыя ведамства засталася нязменнай.

Зрэшты, не толькі Лілія Ананіч не стала чакаць вынікаў праверкі. Напрыканцы студзеня ўдзельнікі адной з перадач «Клуб рэдактараў» — кіраўнік БТ Генадзь Давыдзька, рэдактар «Советской Белоруссии» Павел Якубовіч, кіраўнік БелТА Дзмітрый Жук і госць студыі Аляксей Дзермант — фактычна сталі на бок міліцыянтаў. Выключэннем стала рэдактарка «Комсомольской правды» Галіна Малішэўская, якая настойвала, што журналіста збіваць нельга.

Давыдзька прадэманстраваў фота збітага Дабравольскага і пракаментаваў яго: «Тут падрапанае сцягно. І дае інтэрв'ю, што 20 хвілін прафесійныя амапаўцы збівалі… За 20 хвілін гэтая драпіна? Недзе ўжо хлусня прысутнічае. За маленькай хлуснёй заўсёды хаваецца вялікая хлусня».

Пазней «Советская Белоруссия» надрукавала вялікі артыкул, у якім гаворка ішла пра змову супраць міліцыі. У матэрыяле пісалі пра існаванне «явно координируемой антимилицейской кампании», кардынатары якой «действуют по методичкам по проведению “цветных революций”».

## Несуцяшальная статыстыка

Пасля збіцця Паўла Дабравольскага яго калега Алена Андрэева сабрала звесткі пра збітых у Беларусі журналістаў за апошнія 10 год. 2 сакавіка гэтую інфармацыю аднеслі міністру інфармацыі Ананіч.

Лічбы не могуць не ўражваць: больш за трыццаць фактаў ужывання фізічнай сілы да журналістаў. Фота з разбітымі да крыві тварамі Алега Улевіча, Андрэя Лянкевіча і Сяргея Грыца трапілі ў СМІ па ўсім свеце.

Артыкул Алены Андрэевай пра ўжыванне сілы да рэпарцёраў дазваляе зрабіць некалькі важных назіранняў. Падчас масавых палітычных акцый апошняга дзесяцігоддзя супрацоўнікі міліцыі фактычна ўвялі ў практыку паляванне на прадстаўнікоў прэсы. Найперш — на людзей з фота- і відэакамерамі.

Другі істотны момант: ніводны міліцыянт, што ўдарыў журналіста, не быў пакараны паводле закона. Ніводны. Нават у тых выпадках, калі сведкамі збіцця былі калегі пацярпелага, а сам момант прымянення сілы трапіў у аб'ектывы камер.

## Гамлетаўская дылема беларускай міліцыі

«Клянуся свята выконваць Канстытуцыю і законы Рэспублікі Беларусь, загады камандзіраў і начальнікаў, высока несці гонар і годнасць работніка органаў унутраных спраў, не шкадуючы свайго жыцця абараняць правы, свабоды і законныя інтарэсы грамадзян,



грамадства і дзяржавы ад злачынных і іншых супрацьпраўных замахаў» — гэта ўрывак з урачыстай прысягі, што прымаюць беларускія міліцыянты. Прамаўлялі гэтыя словы і супрацоўнікі АМАПу, што збівалі журналіста проста ў памяшканні суда. І тыя міліцыянты, што збівалі іншых журналістаў, ілжыва сведчылі ў судах.

Натуральна, сітуацыя, калі супрацоўнікі праваахоўных органаў пачынаюць таўчы рэпарцёраў у судовых кабінетах, не магла ўзнікнуць раптоўна. Тым больш што такія дзікунскія метады працы сілавікоў з журналістамі могуць адбывацца толькі пры ўмове гарантаванай поўнай беспакаранасці першых.

Пачатак гэтым працэсам, напэўна, паклаў скандал з «белымі плямамі» ў беларускіх газетах у снежні 1994 года, калі з Адміністрацыі прэзідэнта прыйшоў загад не друкаваць антыкарупцыйную справаздачу дэпутата Вярхоўнага Савета Сяргея Антончыка.

Неўзабаве адбыўся падзел на дзяржаўную і незалежную прэсу. Фактычна дзяржава ўвяла манаполію ў сферы тэлебачання. Адзіны незалежны тэлеканал «Белсат» ужо дзесяць год як працуе з-за мяжы, беспаспяхова спрабуючы адчыніць у Беларусі карпункт і атрымаць акрэдытацыю.

У сферы СМІ ў нашай краіне дзейнічае прынцып бізуна і перніка. Дзяржаўная прэса фінансуецца з нацыянальнага бюджэту, падчас падпісных кампаній на друкаваныя дзяржвыданні нярэдка выкарыстоўваецца адміністрацыйны рэсурс.

У той жа час многія незалежныя выданні за апошнія дваццаць год зазналі судовыя працэсы, закрыццё, затрыманне і збіццё супрацоўнікаў. Напрыканцы 2005 года каля двух дзясяткаў недзяржаўных выданняў апынуліся па-за дзяржаўнай сістэмай распаўсюду. Большасць так і не вярнулася ў кіёскі «Белсаюздруку» і падпісныя каталогі «Белпошты».

Падзел журналістаў на «чэсных» і «нячэсных» не мог не адбіцца на ўспрыманні сілавікамі недзяржаўных СМІ. За два дзясяткі год сярод міліцыянтаў выгадавалася не адно пакаленне супрацоўнікаў, якія, мякка кажучы, непрыязна ставяцца да ўсяго, што ўяўляе сабой альтэрнатыву дзяржсістэме — да апазіцыі, грамадскіх актывістаў і незалежных журналістаў.

З верасня 2009 года мінская міліцыя стала прымяняе на масавых акцыях тактыку «персанальнай апекі» журалістаў: на рэпарцёраў у літаральным сэнсе пачынаюць паляваць спецназаўцы ў цывільным, якія перашкаджаюць весці здымкі, а часам і выбіваюць з рук камеры. Пры гэтым яны не звяртаюць увагі ні на дарагую прафесійную тэхніку, ні на рэдакцыйныя бэджы.

Прыцягнуць да адказнасці ці хоць бы высветліць, хто стаіць за такімі дзеяннямі, дагэтуль не ўдалося. Такая беспакаранасць і развязвае амаль што гамлетаўскую дылему беларускай міліцыі: біць альбо не біць. Канечне біць!

# Андрей Бастунец:

**Концепцию защиты информационного пространства Беларуси в медийной сфере разработала группа экспертов в рамках проекта «РЕФОРУМ» Белорусского института стратегических исследований (Литва). Среди разработчиков концепции были и представители Белорусской ассоциации журналистов. Председатель БАЖ Андрей Бастунец — один из разработчиков документа — поделился основными выводами экспертов об угрозах информационному пространству страны и предлагаемых мерах по их предотвращению.**

***— В общем случае информационную безопасность общества (государства) можно представить двумя составными частями: информационно-технической безопасностью и информационно-психологической (психофизической) — такое определение дается в Википедии. А в частном случае, применительно к нашей стране, с какой стороны больше угроз: с технической или психологической?***

— В демократических странах предпочитают говорить о кибербезопасности, понимаемой как надежность компьютерных сетей. Термин «информационная безопасность» используется преимущественно в странах, которые испытывают дефицит демократии, так как прежде всего они стремятся предотвращать распространение информации, которая может представлять угрозу для их политической, экономической и социальной стабильности. Мы исходили из информационно-психологического определения этого термина, поскольку именно так была сформулирована задача. На формулировку задачи повлияла в первую очередь агрессивная российская пропаганда, с которой в последнее время сталкиваются многие государства и противостоять которой сложно.

***— Приведите, пожалуйста, наиболее яркий пример, свидетельствующий о том, что на нашем информационном поле вызрели российские плоды?***

— Социологические исследования показывают, что большинство граждан Беларуси не в состоянии критично воспринимать распространяемую СМИ информацию о вооруженном конфликте в Украине и разделяют российскую позицию по этому вопросу. В соответствии с результатами социологических опросов около 60% белорусских респондентов, отвечая на вопрос о присоединении Крыма к России, согласились с российским «месседжем» о том, что «это возвращение России русских земель, восстановление исторической справедливости». При этом официальная позиция белорусских властей относительно событий в Украине другая. Иначе говоря, россияне более эффективно доносят свою точку зрения до белорусов, чем белорусские государственные СМИ, доминирующие в информационном пространстве страны.

***— Понимают ли власти угрозу информационной безопасности со стороны России?***

— Безусловно. Думаю, они ясно осознали ее еще во время президентских выборов 2001 года, когда на российских телеканалах демонстрировался фильм «Дикая охота», затрагивающий тему «эскадронов смерти», и ряд других передач, неугодных белорусским властям. И власти в Минске поняли:

# «Власти не научились реагировать на то, что белорусы смотрят на мир сквозь призму интересов Кремля»



если отставить все как есть, то россияне будут использовать столь серьезный инструмент как телевидение в своих целях, и эти цели могут противоречить интересам белорусских властей, но поделать что-либо будет уже сложно. Поэтому сначала появились технические возможности перекрывать нежелательный российский контент своим, потом — «гибридные» (российско-белорусские) телеканалы…

И все же проблема осталась. Потому что если белорусские телевизионщики научились блокировать программы, в негативном свете показывающие, скажем, президента, то изменить общую ситуацию, когда белорусы смотрят на мир сквозь призму интересов Кремля, привыкают видеть его с колокольни Ивана Великого, не смогли. Новости, ток-шоу, «мыльные оперы», транслируемые российскими каналами, действуют, как радиация — незаметно, но убийственно, — и размывают национальную идентичность белорусских телезрителей. Этому способствует и немногочисленность белорусскоязычных передач в эфире государственных телеканалов. В других постсоветских странах именно аудитория медиа на национальных языках оказывается наименее восприимчивой к российской пропаганде.

У нас — условно — выстроена китайская стена на западной границе, а восточная — открыта, и это касается не только медиа-пространства. Официальная концепция национальной безопасности исходит из оценки России как союзного государства, и возможные угрозы с ее стороны (реальность которых показали события в Украине) принципиально не просчитываются.

***— Более года идет речь о том, чтобы в Беларуси начал вещание украинский телеканал, но пока его нет. А вот российский Sputnik открыл в Минске свою редакцию, которую воинствующие национал-шовинисты в России уже обвинили в том, что она «не на своей орбите», потому что пишет о «Великом княжестве Литовском как важнейшем этапе белорусской истории».***

— Sputnik не удалось войти на белорусский рынок в изначально запланированном объеме: радио и телевидения в минской редакции нет. А вот российский телеканал «Звезда» получил разрешение



***Мировой опыт телевещания показывает, что именно локальные новости и телепрограммы представляют для телеаудитории наибольший интерес и являются наиболее эффективным инструментом воспитания и формирования ее сознания. В будущем стоило бы подумать о создании в регионах более мелких, чем в областном масштабе (один или несколько районов), собственных мини-телестудий для обслуживания этих задач. Это позволило бы активизировать и местные рекламные рынки на региональном уровне.***

на открытие корпункта в Беларуси, но незаметен в эфире.

О вещании в Беларуси украинского телеканала уже и не говорят. Более того, информацию, будто президенты Лукашенко и Порошенко договорились об этом, уже начали опровергать. Между тем пока у нас есть только российские медиа, но нет украинских, белорусские телезрители имеют искаженную картину конфликта, в который вовлечены наши соседи.

Однако вопреки общепринятому мнению основными проводниками российской пропаганды в Беларуси (в том числе по «украинскому вопросу») являются не российские телеканалы, а юридически белорусские НТВ-Беларусь, РТР-Беларусь и т. д. Из девяти телеканалов, включенных в пакет, обязательный для распространения всеми вещателями и кабельными операторами, четыре базируются на информационном и публицистическом продукте, созданном в России. Та же картина с первым мультиплексом цифрового вещания. Таким образом, «гибридным» телеканалам созданы благоприятнейшие условия для работы на белорусском информационном рынке. Это позволяет им, ко всему прочему, получать наибольшие «куски рекламного пирога» в ущерб республиканским и местным телеканалам. Это означает, что белорусское государство почему-то предоставляет — на внеконкурсной основе! — серьезные привилегии СМИ, которые распространяют созданный в России продукт.

***— Какие шаги необходимо предпринять в целях защиты белорусского информационного пространства?***

— Эксперты, разработавшие концепцию, исходили из парадоксального на первый взгляд вывода: для защиты информационного пространства в Беларуси надо не закрыть его, а открыть. Освободить от административного диктата белорусские издания и журналистов. Впустить в страну иностранные СМИ, которые могут представить альтернативный взгляд на события в мире. При этом лишить привилегий медиа, которые основаны на иностранном (читай российском) информационном продукте. Все ограничения свободы выражения мнения должны соответствовать Международному пакту о гражданских и политических правах.

Перечислю некоторые предложения из разработанной нами пошаговой программы по защите национального информационного пространства. Самые первые шаги можно сделать без внесения каких-либо существенных изменений в законодательство: прекратить административное преследование белорусских журналистов, ввести мораторий на внесудебное применение санкций к субъектам СМИ (а потом исключить его), снять дискриминационные ограничения по доступу независимых СМИ к государственным системам распространения («Белпочта» и «Союзпечать»), распределению частотного ресурса, получению лицензий, размещению рекламы. Пересмотреть подход к формированию обязательного общедоступного пакета телепрограмм и порядок включения телеканалов в него, провести открытый конкурс по определению телепрограмм, включенных в обязательный общедоступный пакет. Поощрять развитие белорусскоязычного информационного вещания.

Следующие шаги связаны с необходимостью внесения изменений в существующую законодательную базу. В первую очередь необходимо пересмотреть Концепцию национальной безопасности Республики Беларусь с учетом новых вызовов и угроз. Переформулировать на основе принципа свободы выражения мнения нормативное определение информации, распространение которой в средствах массовой информации запрещается. Создать национальный независимый регулирующий орган в вещательном секторе, присоединиться к Европейской конвенции о трансграничном вещании. Исключить из законодательства о СМИ положения о государственном регулировании сферы Интернет, внесенные в него в декабре 2014 года.

В дальнейшем необходимо полностью реформировать законодательство Республики Беларусь о СМИ в соответствии демократическими стандартами. В частности, принять новые Закон о СМИ (пакет законов о СМИ), законы об общественном вещании, разгосударствлении государственных СМИ, издательско-полиграфических мощностей и систем распространения печатных СМИ, о предотвращении концентрации СМИ. Переориентировать национальное телепространство на преобладание белорусскоязычного контента, прежде всего — новостных и публицистических программ. Возобновить фабулярное телепроизводство на белорусском языке — вплоть до сериалов, которые ненавязчивым образом влияют на сознание телеаудитории.

Беседовала Оксана ЯНОВСКАЯ

# «Цифровой айсберг» как стимул для развития



Сергей ПУЛЬША

**Журналистика в ее классическом виде уже сталкивается или неизбежно столкнется с очередным масштабным вызовом. Этот вызов — цифровые технологии. И нашей профессии неизбежно придется измениться. Вопрос: в какую сторону?**



*Известный российский медиааналитик и журналист, бывший секретарь Союза журналистов России и нынешний преподаватель МГИМО Игорь Яковенко рассказывает, с чем мы сталкиваемся уже сейчас, как «цифровой айсберг» уже повлиял на журналистику и как постараться, чтобы «акул пера» не заменили бездушные машины. По словам мэтра, наш «Титаник» на этот айсберг уже напоролся, кто-то столкновение ощутит через год-два, кто-то — лет через десять, но это произойдет неизбежно!*

## Цифровой айсберг

Цифровые технологии и блогерство — две составляющие этого айсберга. Проблема заключается в том, что все в большей степени цифровые технологии — автоматический перевод, перевод текста в звук или звука в текст, создание искусственного интеллекта и так далее — вытесняют целый ряд специальностей. На автоматическое обслуживание, например, переходит бухгалтерия — эта профессия становится атавизмом. В нашем цеху уже сейчас ведущие средства массовой информации избавляются от новостников. Агентство ***Bloomberg*** уже заменило программами искусственного интеллекта 70% журналистов, которые пишут обзоры финансового рынка, рынка недвижимости и других сегментов рынка. Потому что программы составляют экономические обзоры лучше, чем это делает человек. Просто лучше.

Целые отделы, десятки людей потеряли работу, потому что их заменили машинами. Автоматизированная система агрегирования фактов, которая работает по поисковику, справляется гораздо лучше человека. И это та реальность, в которую мы уже вошли.

На глазах отмирает профессия копирайтера. Новостную журналистику начинают заменять блогеры. Ведь редакция может послать своих корреспондентов в десять, двадцать мест, мощные новостные холдинги могут иметь корреспондентскую сеть из нескольких сотен человек. Но вы не можете послать своих корреспондентов в миллионы мест и миллиарды временных отрезков, которые потенциально могут представлять интерес для вашего СМИ. Вы не можете оказаться на месте в момент какой-то незапланированной важной ситуации. Но там могут



***Все в большей степени цифровые технологии — автоматический перевод, перевод текста в звук или звука в текст, создание искусственного интеллекта и так далее — вытесняют целый ряд специальностей.***

оказаться люди, которые распространяют видео, делают записи в социальных сетях. И эти люди вытесняют новостных журналистов.

Большие разделы аналитической журналистики вытесняются программами искусственного интеллекта. Что с этим делать?

Один из путей спасения нашего «Титаника» — авторская журналистика.

## Все понятно, но что конкретно?

Что такое авторская журналистика? Как ни странно, единого понимания вообще нет. В соответствии с российским Гражданским кодексом, на который ссылается россиянин Игорь Яковенко, автором является каждый журналист. Любой человек, который ставит свою подпись под публикацией, — он и есть автор. Получается, что нет смысла в обозначении «авторская журналистика» — такая журналистика является синонимом всей журналистики. Тем не менее мы интуитивно понимаем, что это не так.

Яковенко рассказывает, что, когда он попытался в этом разобраться (для общения со студентами нужно было «членораздельно» излагать проблему и понятия), первым приближением к пониманию авторской журналистики было происходившее в России в XVIII в. — начале XIX в. Тогда существовали средства массовой информации, которые делал один человек. Например, журнал «Почта духов», проживший меньше года, делал один человек — баснописец Иван Крылов. Он все писал, и редактировал, и издавал. Говоря современным языком, брал на себя весь бизнес-процесс. И это есть в чистом виде авторская журналистика, когда «сам себе режиссер».

Сегодня существует определенное противостояние между авторской журналистикой и журналистикой «безликой», замечает Игорь Яковенко. К последней, как правило, относят новостную журналистику. Потому что новости — ну какой тут автор? Журналист же в принципе не является автором факта, о котором он сообщает.

Стоит отметить, что противостояние авторской журналистики и журналистики «анонимной» не является противостоянием «хорошего и плохого». Первая возникшая еще при Советском Союзе независимая качественная пресса, безусловно, явление в журналистике. Например, газета «Коммерсантъ» — тот еще, старый, яковлевский, 1990 года. Кто помнит «Коммерсантъ» начала 1990-х годов — там в принципе не было подписей, авторства. Они сделали журналистику безликой — при том, что там были, безусловно, авторские находки.

Новостную журналистику тоже сложно противопоставлять авторской. Вот теленовости, например сообщения военных корреспондентов, из ярких репортеров тоже делают телезвезд. Эти репортеры тоже создают свой авторский стиль.

Возьмите, например Ольгу Скобееву, которая «родом» из новостной журналистики. Она репортер изначально. Но у нее есть авторский стиль, стальной и брутальный. Ольга выступает по телевизору, как командир ОМОНа, который кричит: «Всем лежать, работает ОМОН!». Так она ведет репортажи, и это, безусловно, стиль. Хорошо это или плохо, но это авторский стиль.

Когда новостные журналисты-телевизионщики становятся звездами, это выгодно телеканалу: аудиторию привлекают не только контентом, ее привлекают и звездами, именами, особенно в бывшем СССР, где не важно **что**, а важно **кто** говорит. Поэтому руководству СМИ нужно «накачать» медийным капиталом человека, чтобы потом этот капитал продать аудитории.

## Первый парень в коллективе

Журналист и исследователь Игорь Яковенко рассказывает:

— Я выделил для себя пять критериев авторской журналистики. Про первый мы уже чуть-чуть сказали — это единоличное участие журналиста во всем цикле создания информационного продукта: от его идеи до распространения. Это универсальная журналистика. Если мы сегодня видим авторских журналистов, то это — автор всей программы. Дибров или Парфенов — это классический вариант авторской журналистики, потому что он сопровождает свой продукт от идеи до воплощения, включая монтаж, контролирует операторские съемки и так далее. Хотя в производстве этого продукта задействован целый коллектив.

Несколько месяцев я пытался делать сетевое общественное телевидение с довольно приличной аудиторией. Потом, как всегда, возник финансовый вопрос и все это закончилось. У меня были некоторые телезвезды — Володя Кара-Мурза например. Был очень скромный бюджет, но я приглашал звезд того, старого НТВ. И когда Владимир Кара-Мурза пришел и я рассказал,

что мы собираемся делать, он спросил: «Ну, хорошо. А где моя команда?». Я говорю: есть четыре оператора и два из них будут с тобой. Отвечает: «Когда я делал свою передачу на НТВ, у меня была команда — двести человек». Двести! А я ему говорю: у нас четыре оператора, один продюсер и один сменный монтажер — и это все. И Кара-Мурза меня спрашивает: «Ты хочешь, чтобы с этим я делал телевидение»?

То есть задействован большой коллектив. А автор — один. Это та авторская журналистика, когда один человек сопровождает весь информационный продукт.

## Позиция — это не поза

— Второй критерий — это наличие четкой авторской позиции. В современной прессе, в современных медиа принят некий отстраненный стиль. Порой это «ложно-отстраненный» стиль. В газетах иногда пишут, что «мнение колумниста может не совпадать с мнением редакции». И что мы не отвечаем за рекламу. И вообще, мы тут в уголке стоим, а что происходит в газете, нас не касается: мы тут курим в сторонке.

Я очень удивляюсь таким вещам и не понимаю, как редакция может говорить, что мнение редакции (значит, у редакции есть какое-то мнение, то есть она не просто сообщает о каких то вещах, она имеет мнение) одно, а что в газете написано — другое.

Авторская журналистика принципиально стоит на другом постулате. Это всегда четкая авторская позиция по тому или иному вопросу. Не может быть авторской журналистики с позицией: «Мне, в общем, все равно, я тут пирожками торгую». И в связи с этим авторская журналистика почти всегда предполагает авторский комментарий.

Это значит, что журналист комментирует в том числе свою публикацию, участвует в обсуждении, имеет обратную связь с читателем.

## Стиль-редактор? Нет такой профессии!

— Третий критерий авторской журналистики — это уникальный авторский стиль. Авторская журналистика узнаваема. Мне не нужно искать подпись под статьей Шендеровича, чтобы он обязательно подписался: «Шендерович». Я с первых предложений узнаю, кто написал эту заметку. Я с первых слов узнаю Леонида Радзиховского. Его можно узнать везде, где бы он ни печатался — в «Российской газете», в других изданиях.

Авторский стиль — это важнейший критерий и признак авторской журналистики.

## Без комплексов

«Четвертый критерий авторской журналистики — нетривиальный подход к освещению темы. Авторский стиль и нетривиальный подход — это разные вещи. Авторский стиль — это наличие своего языка, своих приемов. А нетривиальный подход — немного другое.

Например, Андрей Илларионов: помимо авторского стиля у него свой подход — огромное количество статистического материала. Это фактология. Это безумное занудство, когда вот эти папирусы, совершенно нечитаемые, очень важны. Потому что это расчет на тех, кто хочет докопаться до истины. Это свой подход к журналистскому расследованию, публицистике.

Я стараюсь использовать разные подходы, сочетать разные вещи, быть не узкопрофильным журналистом, а применять довольно широкий авторский арсенал. Когда мне нужно осветить большую серьезную тему, это может быть социологическая публицистика. И мои читатели, бывает, страшно раздражаются: «Что ты нам впариваешь какой-то научный трактат!». Но хотите вы или не хотите — я делаю то, что я делаю, и этим инструментом я решаю конкретную задачу.

В другом случае это может быть памфлет. И тогда другая часть читателей говорит: «Мы вас принимали за серьезного человека, а вы начинаете ломать какую-то комедию». Простите, но я решаю другую задачу.

Но очень часто авторская журналистика — это один «отработанный» подход. Кто-то пишет памфлеты, кто-то аналитику, кто-то подходит к проблеме с помощью интервью. Это и есть разный, нетривиальный подход к освещению темы.

## Аудитория — это не «лайки»

— И наконец, ключевой момент. Авторская журналистика — это почти всегда обратная связь с аудиторией. Это принципиальная вещь. Айсберг цифровых технологий, о котором мы сейчас говорим, это фундаментальная проблема, но и фундаментальное отличие от прежней журналистики.

Поскольку я журналист с 40-летним стажем, я хорошо понимаю, что произошло с нашей профессией за последние несколько лет. Она стала принципиально другой. Раньше я печатался в журнале и связь с читателем была постольку, поскольку была читательская почта. Но в целом это был такой

«выброс» товара на читательский рынок, а что там потом происходит, я по большому счету и не знал.

Сегодня без обратной связи с аудиторией все меньше и меньше можно представить себе профессию журналиста. Авторская журналистика как раз «сидит» на том, что она полностью завязана на связь с аудиторией. Безусловно, цифровые технологии предоставляют здесь гигантские возможности: ты сразу, мгновенно, понимаешь, нашел свою аудиторию или нет.

Это не значит, что я должен полностью следовать конъюнктуре, своей аудитории. Да, меня расстраивает, как и многих других, когда та или иная колонка не получила такого количества откликов, на которые я рассчитывал. Но при этом иногда я понимаю: то, что я сейчас пишу, будет воспринято в штыки. Ну и что? Я, как и многие из моих коллег, не хочу превращаться в голого популиста, который пишет только на потребу аудитории.



***Не существует таких программ, которые способны заменить авторский стиль, авторскую подачу, авторскую интонацию, юмор, пафос и все, что составляет талант.***

Я хорошо понимаю, что можно бы сделать, чтобы увеличить свою аудиторию в несколько раз. Это легко: для этого надо изобретать все более и более «крутые» художественные образы, понижая свой уровень и уровень аудитории. Можно придумывать все более карикатурные изображения неприятных людям персонажей. Но это путь инерционный, популистский.

Обратная связь с читателем — это непременный признак авторской журналистики.

## ИМХО («по моему скромному мнению»)

— Авторская журналистика — это всегда журналистика мнений. Даже когда мы сообщаем какую-то новость, смысл заключается в том, что мы торгуем не новостью, мы торгуем мнением об этой новости. Если классическая журналистика в большей степени торговала фактами, то авторская журналистика все в большей и большей степени превращается в торговлю мнениями.

## 50 на 50

В профессии журналиста Игорь Яковенко выделил четыре основных момента, без которых журналистики не существует. Это профессионализм, владение ремеслом, талант и набор журналистских ценностей (см. «Абажур» № 1 за 2016 г. — *Примеч. ред.*). И некоторые из этих признаков качественной журналистики как раз способны разрушить тот самый угрожающий нашей профессии «цифровой айсберг».

Профессионализм? Интернет в совокупности содержит профессиональных знаний по любому вопросу гораздо больше, чем любой профессионал. Не устоим мы со своим профессионализмом перед программами искусственного интеллекта, перед «Википедией» не устоим.

Ремесло? Не вопрос. Программы искусственного интеллекта вышибают любого профессионала с точки зрения ремесленничества.

Но пока не существует и в обозримый период времени не будет существовать программ, которые способны заменить Михаила Жванецкого или Светлану Алексиевич. Не существует таких программ, которые способны заменить авторский стиль, авторскую подачу, авторскую интонацию, юмор, пафос и все, что составляет талант. Этого нет. Талант незаменим.

Незаменим также набор ценностей журналиста. Невозможно объяснить машине, что такое хорошо, а что такое плохо. Машина не понимает этого вопроса.

Вот эти два слоя не разрушаются под воздействием «цифрового айсберга», о котором мы говорим. Наш талант и наша ценностная система — это то, что может устоять в результате столкновения с «айсбергом». И то, что в перспективе остается от нашей профессии, — это авторская журналистика.

## В пробирке не вырастишь

Игорь Яковенко полагает, что сохранится традиционная схема, когда есть редакция, в ней есть редактор, замредактора, бильд-редактор, корреспонденты. Эту систему вряд ли изменишь. Но каждой редакции надо думать, как действовать в рамках этой системы, чтобы предотвратить негативные последствия столкновения с «цифровым айсбергом». Предотвратить можно. Есть примеры, когда СМИ формируют у себя авторскую журналистику, находясь, как говорят, «в предлагаемых обстоятельствах».

«Я думаю, что для любого СМИ полезно развивать авторскую журналистику. Она требует немного другого подхода к обучению, она требует другого подхода к инфраструктуре. В известной степени она требует того, чтобы редакция работала на выращивание звезд. Это требует серьезных изменений установок внутри редакции. Но это делать необходимо», — уверен мастер.

Тема номера: Блог — новый Бог?

# Прилично о личном

Екатерина ШИМКО

**Татьяна Сидоренко занимает среди белорусов третье место как самый читаемый блогер по версии ЖЖ.**

Я пытаюсь понять: для чего это ей? И вообще, зачем человеку блог?

— Это не первый мой блог. Первый блог у меня появился очень давно и «подогнал» мне его муж, когда у него начались госы. Попросил меня написать несколько постов в его блог, ответить на комментарии. Я думала,

# «Карл, у нас не так!»

**«Не магу ўспрымаць няграматную пісьмовую мову інакш як непавагу. Гаворыце — лупіце на трасянцы. Пішаце — зазірніце на slounik.org», — чытаю на старонцы сябра ў Фэйсбуку. Што ж такое мова інтэрнэту ды куды падзелася нашая пісьменнасць?**



Настасся МАЦЯШ

## Электронная мова

Мова ўплывае на інтэрнэт, яна сродак стварэння інтэрнэту, фармавання і развіцця кантэнту. Пераважная большасць напаўнення сеціва мае моўнае аблічча. І жыццё мовы на гэтай тэрыторыі вельмі разнастайнае. Інтэрнэт — не толькі сфера камунікацыі, а і новая рэчаіснасць мовы, якая не ўкладаецца ў межы ні вуснай, ні пісьмовай формы. Маем справу з новай, **электроннай формаю мовы — пісьмоваю гутарковаю мовай**.

Якія ж прыкметы электронных дачыненняў і пад уплывам чаго яны фармуюцца?

Некаторыя пазамоўныя фактары, якія суправаджаюць вусную размоўную мову, у пісьмовай размоўнай немагчымыя: міміка, жэсты, інтанаванне. Замест іх электронная мова валодае сваімі сродкамі: смайлы, рэгістр, клічнікі, зорачкі, лайкі, шматкроп'е. Важна памятаць, што як міміка — суправаджальны элемент гутаркі, гэтак і смайлы ды іншыя графічныя знакі не замяняюць словаў, а толькі дапамагаюць правільна падаць эмоцыю ці настрой. «У любой незразумелай сітуацыі проста размахвай рукамі», — з самаіроніяй кажа тэлевядоўца, крытычна ацэньваючы сваю збыткоўную жэстыкуляцыю. «Горш за тое, калі дзяўчына ставіць смайлы ў канцы кожнага сказу, можа быць толькі калі гэта робіць мужчына», — сінхронна адгукаецца ейная калега пра «жэстыкуляцыю» ў сеціве. Напаўненне інтэрнэт-паведамленняў невербальнымі знакамі лёгка фармуе ўражанне пра агульны моўны (а значыць, разумовы) узровень карыстальніка сеціва.

Нязмушаныя акалічнасці інтэрнэт-кантактавання абумоўліваюць большую свабоду ў выбары эмацыйных словаў і выразаў: нярэдкія размоўныя адзінкі (*дурань*, *караўка*, *боўдзіла*), прастамоўе (*рагатаць*, *а́хавы*), жарганізмы (*развод, панты, гнабіць, апускаць, адгрэбсці*), слэнг (*відос, капец, тачка*, *жалезна*, *клёва, музло, лавэ*). Вялікі пласт сеціўнай лексікі складаюць камп'ютарныя жарганізмы (*копіпасціць*, *юзэрпік*, *акаўнт*, *оф-топік, заліць*).

Характэрнае для электроннай мовы своеасаблівае стаўленне да пунктуацыі (знакі прыпынку могуць наогул адсутнічаць) і арфаграфіі (ігнараванне правілаў правапісу і наўмыснае скажэнне словаў, моўная гульня: *дафай, аццкі, ніасіліў, пацталом, аффтар* — гратэскавая рэакцыя на шматлікія арфаграфічныя памылкі ў сеціве).

Цікавы працэс узнікнення неалагізмаў. *Ржунімагу, стопіццот, пацзамок* — фактычна самастойныя лексічныя адзінкі з унікальным сэнсам і марфалагічнымі характарыстыкамі, утвораныя пры фанетычным скажэнні зыходных выразаў. З'яўляюцца словы праз непераключэнне клавіятуры (*ЗЫ* = 'PS' = 'Post scriptum'; *лытдыбр* = *lytdybr* = *дневник*), праз запіс кірыліцаю ангельскіх скаротаў (*імхо* = *IMHO* = *in my humble opinion*, *лол* = *lol* = *laughing out loud*, *упс* = *oops*). Беларускамоўныя карыстальнікі скайпу напэўна

***Чалавеку лёгка быць лянівым у сеціўных кантактах, што, несумненна, не спрыяе пісьменнасці.***



ведаюць, што такое *lpzre*. (лацінкавая версія для 'дзякую'), *dbnf*. ('вітаю') і *fuf* ('ага').

Скрайняя ненармалізаванасць электроннай мовы праяўляецца ў скаротах (*дзяк* = 'дзякую', *клс* = 'калі ласка', *плз* = 'please', *нзш* = 'няма за што', *7я* = 'сям'я') і выклічніках (*мімімі, ня, ахтунг, хнык, буэ, ыыыы*).

Для ўзмацнення экспрэсіўнасці могуць ужывацца падваенні словаў, паўторы, удакладненні — праявы збытковасці ды стылёвай недасканаласці. І адначасова назіраецца эканомія моўных сродкаў, пропускі: мы можам не называць таго, пра што пішам, бо мяркуем, што ўсе ведаюць аб прадмеце гутаркі.

А вось абсяг ужывання абстрактнай лексікі, запазычаных, кніжных словаў — надзвычай абмежаваны.

Наступны чыннік, які фармуе інтэрнэт-мову, — ананімнасць. Этыкет паводзінаў у сеціве («нэтыкет») — паняцце даволі размытае, бо ў кожнай інтэрнэт-супольнасці — свае правілы, адміністраванне і тэхнічныя абмежаванні. Выходзяць жа за межы этычных дачыненняў у он-лайне часцей, чым у оф-лайне (абразы, пагрозы, кепікі, неправераныя сцверджанні). Уплывае і дыстанцыйнасць ад суразмоўцы (нават калі называешся сваім імем, ты не бачыш чалавека або людзей, да якога/якіх звяртаешся). Праз гэта выпрацоўваецца новае і не надта прывабнае аблічча дачыненняў людзей. Рызыка быць пакараным за знявагу ці агрэсію — мінімальная, ніхто не дасць поўхі…

З пералічаных асаблівасцяў вынікае, што **электронная форма мовы — гэта жаргон**, які аб'ядноўвае карыстальнікаў інтэрнэту.

## Куды ж падзелася пісьменнасць?

Калі маўленне існуе адзін момант — той момант, пакуль мы гаворым, — то размоўная мова інтэрнэту фіксуецца на пісьме. Адпаведна фіксуюцца і ўсе памылкі. З'яўляецца формула «асоба = тэкст», або «асоба = мова». Ты тое, што ты пішаш. Ты тое, як ты пішаш. Ты тое, што пра цябе пішуць. А інтэрнэт-асоба — сукупнасць тэкстаў гэтай асобы і тэкстаў пра гэтую асобу. На чужыя тэксты пра сябе мы паўплываць можам не заўсёды, затое ўласныя словы крычаць «на ўвесь інтэрнэт», хто мы ёсць. Усе моўныя асаблівасці — навідавоку. Адсюль натуральнае падсвядомае імкненне пісаць правільна — каб не было сорамна. І ў гэтым сэнсе сеціва спрыяе справе ўсеагульнай пісьменнасці. Адкуль жа тады бясконцыя памылкі?

Псіхалагічна і фізічна працэсы напісання слова асадкаю ды пры дапамозе клавіятуры абсалютна розныя. Камп'ютар забівае «вобраз» слова, на які ў школе працавалі падчас работы над памылкамі («рука запамінае»). Пішучы ад рукі, бачым слова цалкам, а пры наборы на клавіятуры лексема распадаецца на літары, спараджаючы памылкі набору. Мы ж не імкнемся перапраўляраць напісанае ў чаце, нам трэба хутчэй адказаць, каб не згубіць кірунку размовы.

Яскравы прыклад рознасці працэсаў і акцэнтаў даў мне шасцігадовы сын, які яшчэ не ходзіць у школу і амаль не ўмее пісаць асадкаю. Седзячы ля камп'ютара, Алесь запытаў: «Мама, як правільна *набіраецца* слова 'дашкольнік'?» Не пішацца! Расце пакаленне, для якога набор — першасны, пісьмо — другаснае. І хто ведае, магчыма, «вобраз» слова не сфармуецца ў «камп'ютарных дзяцей» наогул. Дарэчы, пры пісьме асадкаю сын аддзяляе словы кропачкаю — як у праграме Word.

Таксама трэба ўлічваць, што са з'яўленнем інтэрнэту да стварэння тэкстаў далучылася аграмадная колькасць людзей, якія раней пісалі рэдка ці наогул не пісалі. Яны выступаюць як своеасаблівыя разбаўляльнікі пісьменнасці. Прычым гэтая катэгорыя карыстальнікаў сеціва актыўна (і згодна са сваймі лінгвістычнымі магчымасцямі, а дакладней, НЕмагчымасцямі) уплывае на развіццё электроннай мовы.

Сацыяльныя сеткі дапамагаюць нам дачыняцца — часам без інтэлектуальных намаганняў. Дастаткова націснуць «лайк», загрузіць здымак — і ты ўдзельнічаеш у камунікацыі. Чалавеку лёгка быць лянівым у сеціўных кантактах, што, несумненна, не спрыяе пісьменнасці.



***Няхай Карлы рассякаюць, разводзяць і троляць па-за межамі журналісцкіх матэрыялаў — на сценах сацыяльных сетак.***

## Інтэрнізацыя мовы

Прапарцыйна таму, як павялічваецца доля інтэрнэту ў нашым жыцці, электронная мова выходзіць за межы сваёй хаты, інтэрнэт-камунікацыі, змяняючы ўласна гутарковую мову і ўласна пісьмовую.

Не бяруся адназначна ацэньваць, добра гэта ці кепска. З аднаго боку, узбагачэнне мовы, любога яе пласту — гэта добра.

Зірнем, што адбываецца з моваю медыяў. За апошнія дзесяцігоддзі публіцыстычны стыль трансфармаваўся. Сышлі ў мінуўшчыну ўзнёслая патэтычнасць і сухі афіцыёз перадавіцаў. На змену складаным канструкцыям прыйшлі простыя словы, яркія вобразы, фразеалагізмы. Не ў апошнюю чаргу — пад уплывам інтэрнэту. Жывы, размоўны і дэмакратычны стыль сеціва дадатна ўплывае на мову СМІ.

З іншага боку, праз тое, што праца журналіста ды інтэрнэт непарыўна звязаныя, электронная мова праточваецца ў медыі. Але ці ёсць месца жаргону (а пісьмовую размоўную смела можна акрэсліваць як жаргон, вышэй мы ў гэтым упэўніліся) у СМІ? Вельмі абмежаванае, мінімальнае. Жаргон ніколі не стане моваю, зразумелаю ўсім, колькі б карыстальнікаў у яго ні было. Несумненна, людзі, якія пішуць у інтэрнэце, мусяць валодаць і літаратурнаю моваю. Пагатоў журналісты. Сеціва забяспечвае ўсеагульнасць, даступнасць інфармацыі, а таму яна не павінна падавацца на жаргоне.

***Тое, што смяшыць у Фэйсбуку, выглядае недарэчна ў медыях.***

І калі пэўны пласт інтэрнэт-лексікі някепска пасуе да публіцыстычнай мовы (*хакер, алічбоўванне, пампаванне, сайт, ўэб, сэрвер, спам, скрыншот, трафік*), то ўжыванне іншых — недапушчальнае (*флуд, ігнор, кат, вінда, сабж, расшарыць, глюк, комп, мыла, намыліць, хакнуць, канэкціцца, прога, завіс, клава*).

Між тым сайты медыяў поўняцца фактамі электроннага жаргону: «І калі хтосьці з залы заяўляў, што «Кітай — праект ЗША», гэта не быў тонкі *тролінг*», — чытаем у інфармацыі, прысвечанай прыезду ў Беларусь адэпту «русского мира». «Ахвяра крызісу ці “*развод*” з боку партнёраў?» — акрэслівае ў загалоўку пытанне аўтар тэксту пра праблемы кітайскага бізнесоўца.

У матэрыяле пра надзённыя праблемы беларусаў чытаем: «Мая бабуля 30 гадоў *адпахала* ў калгасе на Гомельшчыне»; «Гэта цынічны папулізм чалавека, які носіць Vacheron Constantin Geneve за $20 000 і *рассякае* па менскіх вуліцах на Maybach за $500 000»; «Добра, што хоць нейкія грошы даюць зарабіць. Ну, і пенсію ўрэшце стабільна выплачваюць. *Карл*, у любым выпадку ў нас не так, як ва Украіне».

Што гэта за працэс? Адбываецца дыфузія паміж медыямі і блогамі, медыямі і сацыяльнымі сеткамі. І **свядомае** выкарыстанне словаў электроннага жаргону сведчыць пра крыху смешнае імкненне асобы заявіць сваю прыналежнасць да групы карыстальнікаў інтэрнэту («я інтэрнаўт!»), паказваючы няспеласць аўтара. **Несвядомае** — выстаўляе напаказ беднасць мовы і вобразных сродкаў.

Якая мэтавая аўдыторыя тэксту з лексемамі *адпахала, рассякае, Карл*? Журналіст звузіў пералік адрасатаў інфармацыі да тых, хто ведае мем пра Карла. У першую чаргу гэта ўзроставае абмежаванне. І не ў апошнюю — інтэлектуальнае. Калі сур'ёзны сродак масавай інфармацыі арыентуецца на папулярныя мемы, пакідае за бортам тых, каму не цікавыя мемы як з'ява. Пагатоў пік папулярнасці жартаў пра Карла ўжо мінуў. Гэтак добры ў астатнім і патрэбны матэрыял дзякуючы электроннай мове згубіў у якасці. Тое, што смяшыць у Фэйсбуку, выглядае недарэчна ў медыях. Дарэчы будзе прыгадаць, як інтэрнаўты скрытыкавалі рэкламную акцыю Velcom'у за бязглуздае выкарыстанне ўсё таго ж мему пра Карла…

Ёсць думка, што інтэрнэт-журналістыка наўмысна зніжае і звужае інтарэсы аўдыторыі. Адна з асноўных задачаў журналістыкі — фармаванне, падтрыманне ці карэкцыя грамадскай думкі — падладоўваецца ў электронных медыях пад узровень абывацельскага ўспрыняцця. Функцыю адбору інфармацыі медыі перадалі інтэрнаўтам, арыентуючыся на колькасць праглядаў, каментароў і на тое, што цікавіць беларускі сегмент «Фэйсбуку». Несумненна, гэтаму працэсу можна і варта супрацьстаяць. Няхай Карлы рассякаюць, разводзяць і троляць па-за межамі журналісцкіх матэрыялаў — на *сценах* сацыяльных сетак (своеасаблівых віртуальных прадаўжальнікаў даінтэрнэтных платоў).



## «Сшытак першакласніка майго сына»

Што адбываецца са структураю сказаў і, шырэй, матэрыялаў? Як на яе ўплывае электронная камунікацыя?

Акрамя дачыненняў неабходных (справы, праца, пакупкі, інфармацыя) сеціва поўніцца кантактаваннем дзеля кантактавання. І калі сістэма такога кантактавання пераходзіць у медыйную сферу, атрымліваем плынь свядомасці замест журналісцкага матэрыялу. Пад уплывам размоўнага сінтаксісу вядомы літаратар і журналіст падпісвае свой здымак у сацыяльнай сетцы: «Сшытак першакласніка майго сына». У сына ёсць першакласнік, у якога ёсць сшытак? Няхай, усё ж гэта не трыбуна, а прыватная тэрыторыя кантактавання. Але што бачым у таго ж аўтара ўжо ў артыкуле на медыя-старонцы? «Летась Полацку пазычыў на месяц прагулачны цеплаход віцебскі рачны порт, на якім штодзень турысты мелі магчымасць зрабіць невялічкую вандроўку з Полацка да Наваполацка і назад». Цеплаход пазычыў порт, на порце вандруюць турысты? Полацк, Полацк, Наваполацк і назад — аўтар стаў ахвяраю любові да віртуальнага кантактавання. Магчыма, ягонае ўнутранае маўленне належна расстаўляла лагічныя акцэнты ў сказе, але ў напісаным выглядзе гэтых акцэнтаў, натуральна, не засталося. Адвольны парадак словаў замінае зразумець думку.

У інтэрнэт-журналістыцы імкліва мяняецца баланс паміж *паведамленнем, уздзеяннем і самавыражэннем.* Медыйны тэкст мусіць мець жорсткую структуру, неабавязковую ў матэрыяле блогу, і не павінен пераўтварацца ў плынь свядомасці. Але пад уздзеяннем сацыяльных сетак усё часцей будуецца паводле законаў унутранага маўлення. І гэтак марнуецца тое, што даюць нам тэхнічныя магчымасці сеціва: складаная структура гіпертэксту. У шмат якіх выпадках атрымліваецца імітацыя гіпертэксту: на справе ўсё зводзіцца да загалоўку, далей за які чытач не пойдзе, бо пару разоў схадзіў і нічога да сваіх ведаў не дадаў. Мы назіраем паўстанне новага журналісцкага жанру — **жанру навіны-загалоўку**, у якім уздзеянне дасягаецца за кошт мінімалізму. Ці чакае нас яшчэ мацнейшае скарачэнне? Ці не стануць асноўнымі журналісцкімі жанрамі ключавыя словы, цэтлікі і тэгі?.. Пакуль відавочна адно: тэндэнцыя збліжэння жанраў, якая даўно назіраецца ў традыцыйнай журналістыцы, узмацнілася ў інтэрнэт-СМІ ды апанавала іх. Жанравыя межы зрабіліся празрыстыя.

Асаблівасці інтэрнэт-мыслення ўплываюць на журналіста, тэксты робяцца павярхоўнымі, неаргументаванымі. Галоўнае — назваць падзею, а не выкласці і прааналізаваць яе. Няма месца кампазіцыйным выкшталцонасцям. Адбываецца ўніфікацыя асвятлення, падавання і афармлення любой інфармацыі. У прыватнасці, уніфікуецца і мова, мова СМІ прыстасоўваецца да пісьмовай гутарковай мовы інтэрнэту, а моўны аўтаматызм вяртае ў матэрыялы штампы. Моўны штамп сведчыць пра думанне штампамі. Усё гэта — вынік эканоміі разумовых намаганняў, якому навучаюць сацыяльныя сеткі. Замест каментара — лайк, замест навіны — загаловак. Не важна *як*, важна паспець.

Усе гэтыя хібы ўзніклі як пабочны эфект электронных дачыненняў. І нашая задача, каб яны не сталі сістэмаю, нівеляваўшы магчымасці, якія дае журналістыцы інтэрнэт.

Ці насамрэч інтэрнэт знізіў пісьменнасць людзей? Мне бліжэйшае меркаванне, што інтэрнэт проста **паказаў сапраўдную непісьменнасць**. Выглядае, што асабліва не было чаго зніжаць… А таму, магчыма, закіды да сеціва — спроба перакласці адказнасць. Ці спрычыніцца інтэрнэт да спрашчэння маўлення і пісьмовай мовы, а як вынік — да зніжэння культуры ды інтэлекту? Моцна спадзяюся, што не. Але дзеля гэтага пры камунікацыі мусім кіравацца яе мэтамі, размяжоўваючы выкарыстанне моўных сродкаў.

# «Хачу проста пісаць свае кніжкі»,

**Навука — няпростае прызначэнне. Бібліятэка, кабінеты, аўдыторыі — на першы погляд, ціхія месцы для працы і даследаванняў. Але і туды прыходзіць ціск, прымус, раздзяленне і неабходнасць рабіць выбар — ва ўсёй яго складанасці.**



Марыя САВУШКІНА

«Ці не шкадуеце, што далі інтэрв'ю Радыё Свабода ў 2004 годзе?» — пытаюся ў Алеся Краўцэвіча, прафесара, доктара гістарычных навук, які ў 1994–1995 гг. быў прарэктарам Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. «Калі б я не меў кантракта ў Польшчы, я б не выказваўся. Я чакаў, што будуць наступствы», — кажа Краўцэвіч. На той час гісторык быў адзіным доктарам навук па тэматыцы ВКЛ і ў згаданым інтэрв'ю ён адказаў на словы Аляксандра Лукашэнка пра Вялікае княства Літоўскае. «Я адказаў не рэзка, не груба, але з універсітэту прыйшлося зысці», — згадвае Алесь Краўцэвіч.

Выратаваў згаданы кантракт з Вышэйшай школай публічнай адміністрацыі ў Беластоку, дзе пасля звальнення з ГрДУ навковец працаваў дзесяць наступных гадоў.

Іншы вядомы гарадзенскі гісторык, прафесар, выкладчык і аўтар навуковых публікацый Алесь Смалянчук спыніў працу ў беларускай сістэме вышэйшай адукацыі ў 2002 годзе, адразу пасля абароны доктарскай дысертацыі. «Ужо тады прысутнічаў падзел на "чэсных" і "нячэсных" гісторыкаў, — кажа Смалянчук. — Я трапіў у катэгорыю "нячэсных"».

Пасля абароны высветлілася, што працы для яго, доктара гістарычных навук, ва ўніверсітэце няма. «Я хацеў выкладаць, але па факту быў навуковым супрацоўнікам у лабараторыі. З доктарскай ступенню… Не тое, каб мяне выгналі, але проста стварылі такія ўмовы, што я сам сышоў», — кажа Алесь Смалянчук.

Пасля звальнення Смалянчук уладкаваўся ў гродзенскі філіял Беларускага інстытута правазнаўства (БІП), пасля працаваў у ЕГУ, у Вільні, дзе пяць год кіраваў праграмай «Гісторыя Беларусі і культурная антрапалогія» і быў прафесарам універсітэта. З 2011 г. па сённяшні дзень Алесь Смалянчук працуе ў Інстытуце славістыкі Польскай акадэміі навук. Зайздросная навуковая кар'ера даследчыка еўрапейскага ўзроўню — так можа падацца збоку. Ці задаволены сам Смалянчук сваёй навуковай кар'ерай? «Я маю працу, і гэта праца, дзе я магу займацца навукай, што само па сабе сёння вельмі каштоўна», — кажа гісторык.

## Факты аднолькавыя, гісторыя розная. Як так?

Хто ж застаўся працаваць у ГрДУ, хто гэтыя «чэсныя» гісторыкі, якія атрымліваюць пасады і працуюць са студэнтамі? Вось што кажа Алесь Смалянчук: «Атрымоўваецца, што "чэсныя" — гэта тыя, хто фактычна працягвае "лакейскую" традыцыю беларускай савецкай гістарыяграфіі і чые погляды адпавядаюць уладзе».

Але гісторыя — гэта факты, дакладныя звесткі. Як з'яўляецца непрымірымае разыходжанне ў думках і меркаваннях пры аналізе адных і тых жа фактаў? Тым больш калі размова не пра сучаснасць, а пра гісторыю — час, калі жыццёва важныя выбары ўжо зробленыя і нічога не зменіш. У чым зерне канфлікту?

«Справа ў інтэрпрэтацыі падзеяў, — кажа Алесь Смалянчук. — Факт у гістарычнай навуцы не існуе без гісторыка. Факт заўсёды ўтрымлівае ацэначную катэгорыю. Без ацэнак у гісторыі не абысціся. Гэта такая навука. Гісторык ніколі

# альбо Кошт акадэмічнай свабоды па беларускім рахунку

не мае “фізічнага” дачынення да нейкіх фактаў, бо мінулага ўжо няма, яно прайшло. Мы займаемся рэканструкцыяй. Але для некаторых гісторыя — гэта не рэканструкцыя, а канструяванне фактаў», — тлумачыць прафесар. Па словах Алеся Смалянчука, сваю ролю ва ўзнікненні кагорты «нячэсных» адыграла і тое, што гісторыкі яго пакалення пачалі распрацоўваць тэмы, якія ў савецкі час не разглядаліся.

## Хто прытуліць гістарычную кафедру?

Куды пайсці працаваць прафесару і выкладчыку, калі дзверы ўніверсітэта для яго зачыненыя? Працягнуць даследаванне і навуковую працу атрымалася толькі па-за межамі радзімы. Руку дапамогі гарадзенскім навукоўцам працягнула польская акадэмічная супольнасць. У 2010 годзе ў Варшаўскім універсітэце быў створаны Цэнтр беларускіх даследаванняў. Зараз там працуе 12 чалавек. Большасць з іх — былыя супрацоўнікі дзяржаўных акадэмічных установаў Беларусі. Кіруе Цэнтрам Алесь Краўцэвіч.

«Гэта цэлая гістарычная кафедра — навукоўцы, звольненыя ў Беларусі ў розныя часы, — кажа ён. — Стварэнне Цэнтра — гэта падтрымка польскіх калегаў».

Спецыялісты з Беларусі працуюць у Варшаўскім універсітэце як выкладчыкі, прапануюць свае курсы, плануюць выданне штогадовага часопіса. Праца ўстановы — унікальны выпадак. Падобных інстытутаў, створаных для гісторыкаў з іншай краіны, у Варшаўскім універсітэце дагэтуль ніколі не было.

## «Жыхары неба»

У Польшчы да былых супрацоўнікаў ГрДУ Алеся Краўцэвіча і Алеся Смалянчука звяртаюцца «пан прафесар». Гэта паважліва і незвычайна, у Беларусі такой традыцыі няма. «Тут (у Польшчы. — *Аўт.*) цябе паважаюць ужо толькі таму, што ты прафесар. Палякі шануюць сваю прафесуру, сваю інтэлектуальную эліту, і гэта пастаянна адчуваецца», — кажа Алесь Смалянчук. На яго думку, стаўленне студэнтаў і адміністрацыі навучальных установаў да прафесарскіх званняў у Беларусі «легкавеснае». Чаму? «Бо ў нас паважаюць пасады і людзей, якія знаходзяцца пры ўладзе. Вось, напрыклад, загадчык кафедры — гэта пасада, паважаны чалавек. А прафесар — не зусім зразумела, хто гэта такі. У беларускіх вну адміністрацыя — гэта “жыхары неба”, — кажа прафесар гісторыі. — Крытыка адміністрацыі заканчваецца тым, што раней ці пазней трэба пакінуць універсітэт».

> ***Тыя, хто ведаюць і нікому не кажуць, — гэта не навукоўцы, а калекцыянеры. Навуковец павінны дзяліцца ведамі***

«Падыходы да навукі ў Польшчы і ў нас кардынальна розныя, — падтрымлівае калегу Алесь Краўцэвіч. — Рэктараў і дэканаў там выбіраюць. Паліцыя не мае права ўваходзіць на тэрыторыю ўніверсітэта без дазволу рэктара. У нас, як вядома, рэктараў не выбіраюць і кіруе ўстановай не проста Міністэрства адукацыі, а абласное начальства».

*У гістарыяграфіі і гістарычнай навуцы не бывае «наднацыянальных» гісторыкаў. Ёсць толькі нацыянальныя.*

## Паверце гісторыку!

Высокі статус навукоўца, папулярнасць гістарычнай навукі і падтрымка ўніверсітэтаў, грамадства і дзяржавы абумоўлівае тое, што гісторыкаў у Польшчы нашмат больш, чым у Беларусі. «Гісторыкі там усюды — у палітыцы, у адміністрацы, у дыпламатыі, яны выступаюць як маральныя аўтарытэты», — кажа Краўцэвч. Чаму нашыя гісторыкі не маюць ні аўтарытэта, ні шанавання? «Шмат нашых гісторыкаў пайшло на службу рэжыму. Людзі ім не верацьۥ», — разважае Алесь Краўцэвіч. На яго думку, адыграла ролю і свядомая палітыка гістарычнай дэзарыентацыі грамадства, якая моцна падарвала аўтарытэт усёй беларускай гістарычнай школы. «У эфір укідваюцца нейкія “новыя” псеўдагістарычныя канцэпцыі, напрыклад “канцэпцыя трыадзінай Русі”, — распавядае спецыяліст. — Абмеркаванне гэтай тэмы — вузкапрафесійная справа, якую нельга выносіць на агульнанацыянальны ўзровень, гэтак жа, як нельга выносіць на абмеркаванне недасведчанымі лячэнне нейкай хваробы. Дыскусія павінна адбывацца ў вузкім коле спецыялістаў, а ў выніку з’яўляцца падручнікі з прадуманай, простай і патрыятычнай схемай дзяржаўнай гісторыі».

Ці спрабуюць польскія палітыкі выкарыстаць навуковую эліту ў сваіх інтарэсах? Меркаванне Алеся Смалянчука: «Палітычная барацьба ў Польшчы адбываецца па-за навукай. Пасля Беларусі тут уражвае адсутнасць ідэалагічнага дыктату. Няма “дзяржаўнай ідэалогіі”, у якую ўсе павінны ўпісвацца. Гэтая ідэалогія нічога, апроч шкоды, гістарычнай навуцы не прыносіць».

## Днём — выкладчык, ноччу — навуковец

А што наконт акадэмічнай і ідэйнай свабоды? Вядома, што беларуская і польская гістарычныя школы маюць розныя, а часам і палярныя меркаванні паводле адных і тых жа гістарычных падзеяў. «За 15 гадоў працы ў Польшчы я ні разу не адчуваў ціску пісаць у патрэбным камусьці накірунку. Я спакойна дыскутую з польскімі гісторыкамі ў сваіх тэкстах, але ў рамках карэктнасці, і перакананы, што мы з палякамі можам пісаць узгодненую гісторыю, не абыходзячы болевыя кропкі», — кажа Краўцэвіч.

Крытыка і яе правільнае ўспрыманне — частка польскай акадэмічнай культуры. Паводле Смалянчука, пасяджэнні Навуковай рады Інстытута славістыкі Акадэміі навук, якія адбываюцца раз у квартал, уяўляюць сабой надзвычай ажыўленую дыскусію, падчас якой ніхто не лічыцца з адміністратыўнымі пасадамі. «Калі гаворка ідзе пра навуковыя рэчы, ніхто не прымае пасады ў разлік. Навуковыя рэчы больш важныя», — кажа Смалянчук.

Розніца ёсць і ў працоўным раскладзе. «У Польшчы навуковец можа зусім не выкладаць, яго асноўная задача — пісаць навуковыя працы, — кажа Алесь Краўцэвіч. — Сістэма пабудавана так, каб “выціскаць” з чалавека кнігі. У Беларусі выкладчык, калі мае сілы, па начах піша і займаецца навукай».

Вялікае значэнне надаецца і навуковай іерархіі. «Калі прафесар мае ступень доктара навук, то ён можа быць у страшнай сварцы з рэктарам, але яго ніхто ніколі не звольніць. У нас не важна, якую ты маеш заслугу ці ступень, — у выпадку канфлікта цябе выкінуць, як выкарыстаную рэч», — канстатуе Алесь Краўцэвіч.




*Алесь Смалянчук — «выгнаннік» у Беларусі, у Польшчы — «пан прафесар»*




*Падчас сустрэчы ў Мінску. Крайні з правага боку Алесь Краўцэвіч*

## З'ехаць? Не. Застацца!

Нягледзячы на тое, што гісторыкі Смалянчук і Краўцэвіч працуюць у Польшчы, маюць там адпаведны статус і з'яўляюцца паўнапраўнымі сябрамі тамтэйшых навуковых супольнасцяў, іх сем'і ды яны самі жывуць у Беларусі, у Гродна.

Пытаюся: «Дзе Вы бачыце сваю будучыню — жыццёвую і прафесійную — у Беларусі ці ў Польшчы?» Алесь Краўцэвіч упэўнены: «У Беларусі. Я хацеў бы быць тут, пісаць свае кніжкі і з гэтага жыць. Не выкладаць, не сустракацца са студэнтамі і не займацца ніякай адміністрацыйнай працай. Ну, можа, яшчэ працаваць на тэлебачанні, рабіць гістарычныя праграмы. Мне гэта падабаецца».

«Людзі, якія з'язджаюць чыста з-за матэрыяльных інтарэсаў… Я іх не асуджаю, але і не паважаю. Не важна, у якой краіне навуковец абараніўся, важна, на якую краіну ён працуе. У гістарыяграфіі і гістарычнай навуцы не бывае "наднацыянальных" гісторыкаў. Ёсць толькі нацыянальныя гісторыкі», — лічыць Алесь Краўцэвіч.

Прафесар Смалянчук праводзіць у Варшаве ў сярэднім два-тры месяцы ў год. Кажа, пра пераезд у суседнюю сталіцу і думкі не было. «Мая радзіма тут, і я не збіраюся яе пакідаць», — падкрэслівае прафесар. «А ці хацелі б Вы атрымаць прапанову ад беларускай акадэмічнай установы?» — правакую пытаннем. І чую шчырае: «Канешне хацеў бы».

«Я б задавальненнем пайшоў бы выкладаць на гістарычны факультэт якога-небудзь беларускага ўніверсітэта. Але сёння такой магчымасці няма. Мне падаецца, што навукоўцы новага пакалення ў Беларусі цікавяцца больш кар'ерай, чым самой навукай», — кажа Алесь Смалянчук.

Навуковыя артыкулы Смалянчук і Краўцэвіч пішуць па-беларуску, па-ангельску і па-расейску. Іх публікуюць у Беларусі і ў Польшчы. «Я лічу, што калі гістарычная навука не данесеная да людзей, яна не мае сэнсу. Тыя, хто ведаюць і нікому не кажуць, — гэта не навукоўцы, а калекцыянеры. Навуковец павінны дзяліцца ведамі», — перакананы Алесь Краўцэвіч.

Месца, дзе пульсуе беларуская гістарычная навука і сканцэнтраваны наш інтэлектуальны патэнцыял — гэта не Мінск і не Гродна, а Варшава. Гэта і сумна, але і добра. Добра, што такое месца ёсць. Самі ж гісторыкі з аптымізмам успрымаюць «беларускі рахунак» свайго жыццёвага паклікання, гатовыя плаціць па ім — змірыцца з незапатрабаванасцю і афіцыйным ігнараваннем на радзіме. Ёсць дом, праца, сям'я — і гэта добра. Але гэта яшчэ не канец гісторыі …

«Пакуль мы будзем працаваць у Варшаўскім універсітэце, а ў будучыні, магчыма, увальемся ў Беларускі нацыянальны ўніверсітэт, — кажа Алесь Краўцэвіч. — Альбо прыйдзем такой згуртаванай калонай у Гарадзенскі ўніверсітэт і зоймем там свае пасады… Паглядзім».

Фота: Арцём Лява

# Народны Паэт




У сакавіку
сышоў з жыцця
**Ніл Гілевіч**

Аксана Яноўская

Ніл Гілевіч — вялікі Паэт і Чалавек. Апошні раз я сустракалася з ім улетку 2014 года і прапанавала зрабіць відэаінтэрвью для naviny.by. Яму гэта ідэя спадабалася, бо «па іншаму тэлебачанню не пакажуць». На жаль, не адбылося: паэт хварэў, а потым сказаў: «Не, міленькая, я ўжо нефотагенічны, такога не трэба паказваць». У тую сустрэчу Ніл Сымонавіч падарыў мне сваю кніжку вершаў. Невялічкую па колькасці старонак і па накладу — вядома, што і збор твораў ён друкаваў за свой кошт. Тады ж ён сказаў мне, што і нашыя інтэрв'ю змешчаныя ў зборы твораў. Трэба прызнаць, што мая праца ў тых інтэрв'ю — падрыхтоўка пытанняў. Ніл Сымонавіч меў звычку самастойна друкаваць адказы ды заўсёды з павагай ставіўся да рэдакцыйных планаў: удакладняў пажаданы тэрмін.

«Абажуру» у памяць пра апошняга Народнага паэта я прапаную вытрымкі з інтэрв'ю газеце «День», надрукаванага 21 чэрвеня 2001 г. — «Жыццёвы выбар Ніла Гілевіча» і «Асілак беларуская паэзіі» (надрукаванае ў газеце «Экспресс Новости» 14 лістапада 2003 г.). Апошняе з названых — мае самае ўлюбёнае інтэрв'ю, бо ў ім Ніл Сымонавіч распавядаў пра асабістае жыццё. Сваё прыватнае жыццё ён вельмі засцерагаў, але ў той час мы паразумеліся, што трэба крышку падзяліцца з людзьмі тым, што на сэрцы.

# Жыццёвы выбар Ніла Гілевіча

***— Ёсць думка, што заўсёды творца знаходзіцца ў апазіцыі да ўлады. А ці могуць яны мірна суіснаваць?***

— Па-мойму, гэта думка спрэчная, абсалютызаваць яе не варта. Усё залежыць ад таго, якая ўлада і які сам творца. Калі творца, хоць і таленавіты, мае занадта гнуткую хрыбеціну, ён у карыслівых мэтах будзе прыстасоўвацца да любой улады, нават да самай рэакцыйнай, самай адыёзнай. Гэтага не стане рабіць творца з пачуццём чалавечай і мастакоўскай годнасці, творца з цвёрдымі маральнымі прынцыпамі і перакананнямі, які даражыць сваім імем, аўтарытэтам, вядомасцю (калі яна ёсць). Сур'ёзны творца разумее, наколькі небяспечна паступіцца гонарам, сысці з годнага шляху служэння мастацтву, высокім ідэалам народа — на асклізлую дарожку сервільнасці, імкнення ўслужыць і дагадзіць «трымальнікам улады». Такому мастаку-творцу цяжка жыць і дыхаць у грамадстве, дзе сумленны працоўны чалавек не мае магчымасці тварыць сваё чалавечае шчасце, бо пазбаўлены грамадзянскіх правоў і свабод, бо яго прымушаюць жыць не праўдай, а хлуснёй. Мастацтва па сваёй прыродзе антаганістычнае ўсякаму маральнаму пачварству, асабліва прадажніцтву, халуйскай рэптыльнасці, хлусні і крывадушнасці, хцівасці. Да гэтых амаральных з'яў грамадскага жыцця яно заўсёды ў апазіцыі, значыць, і яго творцы, яго носьбіты — таксама. Калі ўлада — маецца на ўвазе вярхоўная ўлада — стаіць на абароне несвабоды, няпраўды, несправядлівасці, дык што рабіць творцу, як не пратэставаць, не змагацца? Скажаце: а ці бывае ўвогуле вярхоўная ўлада высокамаральнай, сапраўды інтэлігентнай, сапраўды культурнай? Бывае. Напрыклад — першы прэзідэнт незалежнай Чэхаславакіі, доктар філасофіі Томаш Масарык. З ім радасна супрацоўнічалі ў будаўніцтве свабоднай незалежнай Бацькаўшчыны ўсе самыя таленавітыя чэшскія і славацкія дзеячы літаратуры і мастацтва.

***— У савецкія часы Вы былі прызнаным паэтам, прафесарам БДУ, першым сакратаром Саюза пісьменікаў Цяпер Вы — Народны паэт, грамадскі дзеяч. Як Вы пачувалі сябе тады і цяпер?***

— Як тады, так і цяпер раблю тое, дзеля чаго пакліканы ў жыццё, — рэалізую свае творчыя магчымасці ў літаратуры, у навуцы, у педагагічнай дзейнасці (каля 30 год працаваў ва ўніверсітэце). Усё гэта было падпарадкавана адной мэце — паслужыць Беларусі, беларускай культуры, нацыянальнай


Фота: Сяржук Серабро

***— У 1990–96 гадах Вы з'яўляліся старшынёй Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны. Здаецца, Вы і сёння працягваеце гэту працу?***

У самым агульным сэнсе — так. Калі мець на ўвазе клопат пра стан беларускай культуры, нацыянальнай школы і гістарычнай спадчыны народа, то я ад гэтага клопату не вызваліўся і, відаць, не вызвалюся ўжо ніколі. Толькі цяпер мае магчымасці ў практычнай дзейнасці на гэтай ніве вельмі абмежаваныя — адно публіцыстычным словам у газеце ды вусным словам на сустрэчах з чытачамі. Тады, у Вярхоўным Савеце Беларусі, наша камісія мела вялікія паўнамоцтвы, курыравала дзейнасць двух міністэрстваў — адукацыі і культуры. Непасрэдна ўплывала на працэсс ажыццяўлення ў рэспубліцы законаў аб мове, аб адукацыі, аб культуры, аб бібліятэках, аб архівах і іншых — дарэчы, ёю ж, камісіяй, у значнай меры і распрацаваных (за выняткам закона аб мове, прынятага яшчэ ў студзені 1990 года на сесіі Вярхоўнага Савета 11-га склікання, дзе я ў камісіі быў намеснікам старшыні і ўзначальваў рабочую групу, якая выпрацавала гэты закон, паводле якога беларуская мова стала адзінай дзяржаўнай у Беларусі).

Але хацеў бы сказаць вось аб чым. Тады, калі я быў заняты непасрэдна практычнай працай у Вярхоўным Савеце, у мяне было больш аптымізму, больш веры ў разумнае, на дзяржаўным узроўні вырашэнне праблем развіцця адукацыі і культуры у Беларусі. Вырашэнне — у адпаведнасці з агульнымі задачамі нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, вырашэнне — у інтарэсах баларусізацыі ўсяго духоўнага і культурнага жыцця ў рэспубліцы, паколькі Беларусь усё больш і больш траціла ўласнае аблічча, уласны стыль жыцця, сваю прыродную беларускасць і ўсё больш станавілася правінцыяй Расіі. Тады мацней верылася ў тое, што неўзабаве наступіць жаданы паварот да вытокаў і каранёў і што гэта будзе рабіцца праз далучэнне да беларускай кнігі, да беларускага друкаванага слова, праз нацыянальнае тэлерадыё, нацыянальнае кіно, а найперш — праз нацыянальную школу, і базавую, і вышэйшую.

Сёння я гляджу на стан рэчаў з вялікім засмучэннем і нават з болем. Працэс пайшоў у адваротным накірунку. Цяжкае, страшнае слова — дэградацыя, але іншым словам гэты працэс не назавеш. Культурная, духоўная, маральная дэградацыя грамадства.

асвеце і адукацыі. Як пачуваўся ў гэтых розных зрэзах гістарычнага часу? Ніколі не было на душы надта весела — так, каб хацелася буйна скакаць ад радасці. І тады цягам дзясяткаў гадоў пакутліва думаў, што ж будзе з нашай Беларуссю, з нашай мовай і культурай, і цяпер пра гэта самае думаю, толькі яшчэ больш пакутліва, бо пасля шчаслівага глытка свабоды, які аказаўся трагічна кароткім. Гэта — галоўнае, калі пытанне датычыць пачування душы, а не таго, у чым душа месціцца. Матэрыяльны дабрабыт асабліва не хваляваў мяне ніколі, хаця лічу нармальным і справядлівым, што дзеячы літаратуры і мастацтва павінны жыць і працаваць у больш-меньш чалавечых умовах. Жабрацтва — і як рэальнасць, і як псіхалогія — рэч агідная. І калі сёння пажылыя пісьменнікі, артысты, музыкі, якія багата зрабілі для нацыянальнай культуры, жывуць як жабракі — гэта ганьба і для дзяржавы, і для грамадства. З сямідзесяці напісаных мною кніг пятнаццаць я выдаў безганарарна, «за так». Кажу не для таго, каб пахваліцца, прабачце, а каб было зразумела, што было для мяне галоўным: творчая праца і яе вынікі ў выглядзе кніг, каб кніга пайшла да чытачоў. А хлеб надзённы зарабляў перш за ўсё сталай працай пазалітаратурнай — спачатку педагагічнай (у БДУ), а затым чыноўніцкай (у Саюзе пісьменнікаў, у Вярхоўным Савеце рэспублікі). Зрэшты, ва ўсім свеце паэты ніколі з паэзіі хлеба не елі. Пладавітых раманістаў, удачнікаў-драматургаў плён іх творчасці карміў, а паэтаў — не. Гаворка, вядома, пра паэтаў, якія свой талент не прадаюць, якія трымаюць у цане сваё паэтычнае слова.

Каб спыніць гэты працэс і пачаць (не на словах, а на справе) духоўнае адраджэнне Беларусі, патрэбны іншыя грамадска-палітычныя ўмовы, патрэбна мабілізацыя духоўных рэсурсаў нацыі, інтэлектуальных сіл, розумаў і талентаў народа. Што ж бачым замест гэтага? А тое, што бачым: адзін Андрэй за ўсіх мудрэй. Адзін усіх вучыць, прычым не церпячы пярэчанняў, як што рабіць: як расціць хлеб, як будаваць дом, як развіваць навуку, як выхоўваць дзяцей, як лячыць хворых, як пісаць музыку і г. д. І ўсё гэта на поўным сур'езе. Смешна? Было б смешна, калі гэта было б недзе на Чорным кантыненце, ва ўладаннях прынца Мамабука. Але ж гэта не там, а тут. Цяжка мяняць грамадска-палітычныя ўмовы, але «цяжка» не значыць «немагчыма».

***— Ніл Сымонавіч, Вы паслядоўна і палымяна адстойваеце правы беларускай мовы. Здаецца, Беларусь — адзіная краіна ў свеце, дзе родная мова — падчарка злой мачыхі.***

Ва ўсякім разе я такой краіны не ведаю. Не магу ўявіць, каб у нейкай суверэннай дзяржаве мова карэннага насельніцтва знаходзілася ў такім бяспраўным становішчы, была на задворках грамадскага жыцця, на афіцыйным узроўні зневажалася, аплёўвалася, тапталася і крычала аб паратунку. Не магу ўявіць, каб кіраўнік суверэннай дзяржавы мову свайго народа называў недасканалай, неразвітай, беднай, не прыдатнай для ўжытку ў грамадскіх сферах жыцця. Які народ — не толькі ў Еўропе, а і ў Азіі, і ў Афрыцы — сцярпеў бы такую дзікую абразу сваёй нацыянальнай годнасці? Не кажу аб тым, колькі праўды ў падобных заявах пана-начальніка. Чалавек як быццам і чуць не чуў, што на беларускай мове яшчэ сотні гадоў назад выдадзены найвялікшыя ў гісторыі чалавечай цывілізацыі кнігі — «Біблія», «Статут Вялікага Княства Літоўскага», што на гэтай мове існуе незвычайна багаты фальклор (сотні тысяч песень, тысячы казак, легендаў і паданняў, дзясяткі тысяч прыказак, прымавак, замоў і інш.), створана самабытная, прызнаная ўсім светам мастацкая літаратура, арыгінальны нацыянальны драмтэатр і нацыянальная опера. Як гэта ўсё ўвесці ў вушы людзям, якія не чуюць, наглуха пазбаўлены слыху?

Асабіста я ўжо даўно стаміўся аб гэтым пісаць і гаварыць (дакладней — крычаць). Добрых сорак гадоў б'ю і б'ю ў адзін і той жа Багушэвічаў звон: «не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» — гэтак жа, як і многія-многія патрыёты Бацькаўшчыны, якія не могуць маўчаць і таму — не маўчаць. На жаль, хоць гэты звон вялікай трывогі нашай нязмоўна гудзе, яго штодзённа заглушае няспынная татальная хлусня, і таму даводзіцца з сумам канстатаваць, што прыслухоўваюцца да яго ў масах народа пакуль што слаба. Тая ўнутраная сіла, якая аднойчы выбухне ўсенародным клічам: «Мову — нашу — нам!» — нарастае марудна. Але нарастае. Асабліва ў шэрагах моладзі, і гэта мацуе ў душы і сэрцы надзеі на будучыню, акрыляе веру ў непазбежнасць парамогі тых грамадскіх сіл, што сталі пад сцяг нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Расправіцца — у наш час! — з мовай 10-мільённага народа — такую задачу могуць ставіць сабе толькі, прабачце, невукі. Мова, якая прайшла тысячагадовы, поўны трагічных катаклізмаў шлях і не згінула — тым больш не згіне цяпер. У гэтым няма і не можа быць ніякага сумнення. Але крыўдна, што на сваёй роднай зямлі, дзе ўзнікла і сфарміравалася, яна вымушана цярпець такія ганенні, абразы, здзекі. Крыўдна, што многія сыны і дочкі гэтай зямлі ўсё яшчэ не могуць зразумець, дзе іх шлях-дарога да людскай долі. Даводзіцца чакаць, калі ж нарэшце грамады нашых людзей званітуе, прабачце, ад брутальнай хлусні і цынізму, калі нарэшце яны пераканаюцца, што не можа быць нармальнага чалавечага жыцця там, дзе пануе хлусня, ашуканства, сацыяльная дэмагогія і антынацыянальная палітыка.

## Асілак беларуская паэзіі

***— Акрамя літаратурнай працы Вы каля 30 гадоў выкладалі ў БДУ. Потым шмат год аддалі чыноўніцкай працы: дзевяць гадоў былі першым сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі, а потым узначальвалі пастаянную камісію Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны. Вы неяк сказалі, што «ва ўсім свеце паэты ніколі з паэзіі хлеба не елі». Ваша выкладчыцкая і чыноўніцкая праца была толькі дзеля хлеба ці найперш як дадатак да літаратуры?***

— Шчыра кажучы, яшчэ ў маладосці, стаўшы ў 23 гады сябрам Саюза пісьменнікаў, я марыў жыць вольным мастаком — займацца толькі літаратурнай працай. Так, адно з паэзіі хлеба не наясіся, але я верыў у свае творчыя магчымасці і ў іншых жанрах (крытыка, публіцыстыка, мастацкі пераклад, проза) і на хлеб штодзённы прафесійнай літаратурнай працай зарабіў бы.

Але цікавасць да гісторыі літаратуры і прыродная даследчыцкая жылка зрабілі сваё — завабілі мяне ў навуку, і я пайшоў у аспірантуру, абараніў дысертацыю, стаў выкладчыкам БДУ. І мне пашанцавала: прапанавалі чытаць курс лекцый па вуснапаэтычнай народнай творчасці. А гэта — бяздонныя




і невычэрпныя крыніцы паэзіі і мовы, купацца ў якіх для душы паэта не проста задавальненне, а вяршыня асалоды. Ды і штодзённае кантактаванне са студэнцкай моладдзю давала творчае натхненне. І канешне, разуменне, што ты маеш сталы заробак, што не трэба ў рэдакцыях камячыць шапку і прасіць: «Можа б у наступны нумар маё паставілі, а то грошай на хлеб няма…»

Нешта іншае — чыноўніцкая служба і ў Саюзе пісьменнікаў, і ў Вярхоўным Савеце. З паэзіяй на гэтых службах агульнага было мала, тут, я думаю, і тлумачэнні не патрэбны. На працу ў СП, на пасаду першага сакратара праўлення, мяне, груба кажучы, загнаў Машэраў — з павагі да яго адбіцца я не змог і згадзіўся. Пры гэтым, калі гаварыць пра хлеб, мяне ашукалі: паабяцалі зарплату прыраўняць да маёй прафесарскай у БДУ і не прыраўнялі. У выніку — за дзевяць гадоў працы ў СП я страціў у зарплаце на дзве «Волгі». Не надта з-за гэтага перажываў, бо, як вядома, «шчасце не ў грашах». Магу пацвердзіць гэта і тым, што за савецкім часам (да 1991 года) я выдаў 12 кніг безганарарна — за так, каб толькі яны выйшлі і паслужылі чытачам.

У СП маёй галоўнай мэтай было раскатурхаць пісьменніцкую грамаду дзеля актыўнай дзейнасці пад сцягам нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі. Дзеля гэтага і ў Вярхоўным Савеце даў згоду ўзначаліць пастаянную камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. Здаецца, сёе-тое добрае для Бацькаўшчыны ўдалося там за пяць гадоў зрабіць. На літаратурную працу часу амаль не заставалася. Апраўданнем і суцяшэннем была мая вера, што ў сапраўды свабоднай і незалежнай Беларусі наступіць небывалы росквіт культуры, навукі, мастацтва, само сабой — дабрабыту, а дзеля гэтага не шкада ахвяраваць сваімі творчымі радасцямі. Муза — мудрая, зразумее і не пакрыўдзіцца.

***— Разам з гэтым Вы бралі і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. У прыватнасці, удзельнічалі ў руху «За новую Беларусь». Ці не расчараваліся ў розных рухах, аб'яднаннях, якія дэкларуюць самыя добрыя мэты, але чамусьці не здольныя ні на крок да іх наблізіцца?***

— Характар такі дастаўся — без удзелу ў грамадскіх справах і клопатах свайго жыцця я ўявіць не мог. Многія кажуць: літаратурная творчасць — гэта і ёсць грамадская дзейнасць пісьменніка. Бясспрэчна. Але, па-першае, якая творчасць? Калі ў рэчышчы вялікіх гуманістычных і дэмакратычных традыцый — то гэта так. А калі гэта мышынае шамаценне пад венікам ці казытанне пятак «творчасцю», каб зрабіць чытачу прыемненька, — якая ж гэта грамадская дзейнасць? Па-другое, і для пісьменнікаў з выразна грамадскім творчым аблічам удзел у прагрэсіўных рухах — рэч натуральная. Гэта падцвярджаюць сваімі лёсамі самыя вялікія: Байран, Гюго, Міцкевіч, Петэфі, Шаўчэнка, Боцеў, Купала, Лорка, Хікмет, Неруда, Твардоўскі…

Лёс распарадзіўся так, што мне выпала быць ініцыятарам стварэння і першым старшынёй Таварыства беларускай мовы, сябрам аргкамітэта БНФ, быць

у ліку заснавальнікаў руху «За новую Беларусь», цяпер я ўваходжу ў раду МГА «Бацькаўшчына», раду ТБМ і раду СП. На жаль, стан здароўя вельмі абмежаваў мае ў гэтых адносінах магчымасці.

Што датычыць «расчараванняў» — мяне вельмі засмучае адно: раскол надвае і без таго нешматлікіх прагрэсіўных партый, аб'яднанняў, рухаў, нестыкоўка і няўзгодненасць у дзеяннях. Проста пракляцце нейкае! Кожны з лідэраў нібыта горача любіць Беларусь, а падобна на тое, што яшчэ гарачэй любіць сябе і лейцы ў сваіх руках. Абсалютна ніякай розніцы ў праграмах, а партыі — дзве! Чаму? І ў імя чаго? Я гэта разумець адмаўляюся. Можа быць, сваю чорную справу робяць Азефы? Дык павінна быць мудрасць, каб не ісці за імі. Чаму няма разумення самага галоўнага: толькі аб'яднанымі сіламі можна зрушыць справу з месца — справу збудавання дзяржаўна-палітычнага ладу, у якім будзе панаваць Закон і будуць паважацца правы Чалавека.

***— Творцу заўсёды важна быць пачутым. Не так даўно ў серыі «Народная кніга» выйшаў том вашых выбраных твораў. Але зразумела, што ў параўнанні з савецкім перыядам нашай гісторыі, калі кнігі членаў Саюза пісьменнікаў выдавалі без усялякіх абмежаванняў, цяпер беларускамоўных аўтараў друкуюць вельмі мала. За савецкім часам існавала бюро прапаганды літаратуры. Мне тут папаўся ў рукі тэлефонны даведнік Саюза пісьменнікаў Беларусі за 1991 год, і там я знайшла такую пасаду — упаўнаважаны па арганізацыі выступленняў па рэспубліцы. Зразумела, што даўно такой пасады няма, як няма ў большасці нашых пісьменнікаў літаратурных агентаў. Атрымліваецца, што пасля напісання твора трэба яшчэ думаць, якія зрабіць захады, каб ён стаў вядомы чытачам. Як вы вырашаеце гэту праблему?***

— Творцу, канешне, важна, каб яго пачулі, каб яго твор «пайшоў у людзі» і нешта добрае чытачу (слухачу, гледачу) сказаў. У гэтым назначэнне мастацтва — шчырай мовай дабрыні і светлыні гаварыць з людзьмі, памагаць чалавеку пачуцца асобай, у ідэале — стаць Чалавекам з вялікай літары. Мастак (паэт, кампазітар, жывапісец і г. д.) творыць таму, што без гэтай спецыфічнай, Богам суджанай працы, жыць не можа. І ў самых неспрыяльных, нялюдскіх умовах ён творыць. У казематах паэты запісвалі радкі на мураванай сцяне. Вязень ГУЛАГу Браніслаў Тарашкевіч пераклад з польскай «Пана Тадэвуша» рабіў у памяці — без паперы і алоўка. Мастак не можа не тварыць! Вельмі кепска, калі плён яго працы не запатрабаваны — не заўважаецца, не ацэньваецца, як бы і не патрэбны грамадству.

Што датычыць беларускай літаратуры, то яе выхад у людзі за савецкім часам не быў такім лёгкім і бесперашкодным, як можа сёння здавацца. Цэнзура ўсё ж была і сачыла пільна. Невыпадкова сваю паэму «Сказ пра Лысую гару» я быў вымушаны пусціць да чытачоў пад псеўданімам і падпольна, у рукапісу. А колькі абразання-выстрыгання зазналі ў выдавецтвах, у рэдакцыях часопісаў творы Быкава, Караткевіча, Панчанкі!..

Без усякіх перашкод выдавалася літаратура сервільная, што цалкам была на паслугах афіцыяльнай ідэалогіі. Да сервільнасці імкнуліся прывучыць літаратуру агулам, але ўся яна ніколі такой не была, бо і не магла быць — сумленнае, шчырае, чалавечнае слова гучала шырока і, падкрэслю, высока, чужаючыся пошласці, цынізму і ўсякай іншай брыдоты, якой занадта шмат пачало выдавацца пасля 1991-га. Таленавітыя пісьменнікі пісалі з павагай да асобы чалавека, да здаровай народнай маралі і густу — гэта галоўнае.

Цэнзура не давала на ўвесь голас гаварыць праўду, ад чаго літаратура, канешне ж, несла страты. Ну, а цяпер, калі цэнзуры нібыта няма? Што адбываецца цяпер? Чаму ўлады не дазволілі Сяргею Законнікаву выдаваць новы літаратурна-мастацкі часопіс? Чаго, не пабачыўшы ніводнага нумара, спалохаліся? Ужо загадзя пісьменнікам і іх творчасці вынесены прысуд. Гэта нешта звышвыродлівае і ганебнае. У нармальным грамадстве так быць не павінна. У пісьменніка павінен быць выбар месца друкавання сваіх твораў, так заўсёды было і ёсць у цывілізаваных дэмакратычных краінах.

Беларускаму пісьменніку-прафесіяналу сёння выдаць новую кнігу неймаверна цяжка. Вытворчыя магчымасці дзяржаўнага выдавецтва «Мастацкая літаратура» скараціліся ў пяць, калі не больш, разоў — у дзяржавы няма грошай. Выдавецтва дзіцячай літаратуры «Юнацтва» ліквідавана зусім — за вялікіх бацькоўскіх клопатаў пра беларускіх дзяцей і падлеткаў. Недзяржаўныя выдавецтвы, за выняткам двухтрох, на беларускую літаратуру глядзяць коса. Малыя наклады, не дае прыбытку! Натуральна, у асяроддзі пісьменнікаў шырэе сацыяльная апатыя. Амаль усе яны перабіваюцца з хлеба на квас, фундатараў шукаць не ўмеюць. Дый хто, які фундатар дасць грошы на беларускую кнігу, на падтрымку «нацыяналізму», калі задача ў дзяржаве пастаўлена зусім іншая — беларускую мову «ліквідаваць як клас», як некалі кулакоў.

З гэтымі цяжкасцямі сутыкаюся і я. У канцы мінулага года новую кнігу паэзіі «Паланэз» Агінскага» выдаў за свой кошт. Выйшла яна накладам 100 паасобнікаў — на большае пенсійных грошай не хапіла. Ніводзін паасобнік у продаж не паступіў. Значыць, кніга нібыта і выйшла, але нібыта і не,




бо чытачы яе не бачылі. А можа, яна б ім і прыдалася і нешта добрае б сказала? Цяпер думаю, як выдаць зборнічак лірычных мініяцюр — пяцірадковых вершаў. Колькі гадоў ляжыць рукапіс новай кнігі публіцыстыкі…

Вось такая рэальнасць. Рэальнасць, у якой здаровы сэнс усё больш і больш становіцца хімерай. Як і сумленне. Як і пачуцце сораму. Затое на ўсіх парусах ідуць навыперадкі прафанацыя, пошласць, дурнота. Але ўпадаць у роспач не трэба. Час высокай паэзіі, праўдзівай, чалавечнай літаратуры — наперадзе. І ён прыйдзе. Абавязкова.

***— Ніл Сымонавіч, як паэт, публіцыст, грамадскі дзеяч Вы добра вядомы, але чытачам цікава і прыватнае жыцце вядомых асобаў. Хоць мне і боязна задаваць гэта пытанне, але паспрабую. На жаль, не так даўно пайшла з жыцця ваша жонка Ніна Іванаўна. Я вельмі шчыра смуткую, бо добра памятаю яе як выкладчыка БДУ. На мой погляд, яна выдатна ведала свой прадмет і галоўнае — была неабыякавай да ўсяго, што адбываецца ў жыцці. Калі-нікалі трошкі сварылася на нас за невуцтва, але пры гэтым усё роўна адчувалася яе дабрыня, жаноцкасць. Ёсць такія жанчыны, пра якіх адзінае, што можна сказать, дык толькі тое, чые яны жонкі. А пра Ніну Іванаўну ўсе ведалі, што яна жонка «самога Гілевіча», але ўспрымалі найперш як самастойную асобу. У згодзе і каханні разам вы пражылі шмат год. Цяпер, калі інстытут сям'і ўсё хутчэй страчвае сваю значнасць, скажыце, у чым сакрэт сямейнага шчасця?***

— Ведаю, што многія чытачы цікавяцца, нават вельмі, прыватным жыццем пісьменнікаў, кампазітараў, артыстаў… Разумею іх, не асуджаю, але мушу расчараваць: пра хатні побыт, пра сямейныя ўзаемаадносіны гаварыць не люблю і ніколі на падобныя «правакацыі» не паддаваўся. Увогуле я чалавек досыць-такі замкнуты, сваё асабістае заўсёды трымаю ў сабе: і тое, што для мяне ёсць святым, дарагім, запаветным, і тое, за што мне балюча, сорамна, горка. Мучаюся гэтым сам-насам, хоць ведаю: таму, хто здольны адкрывацца, лягчэй.

Натуральна, многае асабістае, інтымнае, сямейнае стала зместам маіх лірычных вершаў, а ў нейкай меры і паэм. Думаю, што гэтага і дастаткова. Гэта і павінна задаволіць чытача, бо самае істотнае, самае «цікавае» са свайго асабістага я зрабіў паэзіяй, выказаў моваю боскай, навошта ж яго пераказваць мовай будзённай, прыземленай? Дарэчы, за апошнія 12–13 гадоў мне даводзілася чытаць такія расповяды некаторых пісьменнікаў пра сваё асабістае, інтымнае, сямейнае, што было і агідна, і сумна, і сорамна: трэба ж, такое брыдоцце — у нашай адвеку чыстай, адвеку духатворнай літаратуры!

Пра Ніну Іванаўну хацеў бы сказаць шмат, можа, дасць Бог, калі-небудзь і скажу, але пакуль што не гатовы, занадта баліць і крываточыць, яе адыход з жыцця ўспрыняў як катастрофу ў маім чалавечым і пісьменніцкім лёсе і з гэтым пачуццём жыву. Хутчэй не жыву, а існую. Каб было зразумела, кім Ніна Іванаўна была для мяне, скажу зусім коратка: калі б не яна, я не зрабіў бы і паловы таго, што паспеў зрабіць і ў літаратуры, і ў навуцы, і ў грамадскай чыннасці. Толькі дзякуючы яе надзвычайнай самаахвярнасці я змог напісаць дзясяткі тамоў кніг і зрабіць многія іншыя добрыя справы.

Яна ўсё ўзяла на сябе, цалкам вызваліўшы мяне ад гаспадарча-бытавых клопатаў. А між тым, і вы гэта справядліва зазначылі, яна была асобай самастойнай, была таленавітым мовазнаўцам і педагогам, чалавекам жывога аналітычнага розуму і вялікай жыццёвай мудрасці, рэдкаснай душэўнай шчодрасці і маральнай чыстаплотнасці. У яе былі тры святыні — Беларусь, родная мова і сям'я. Усё гэта для яе ядналася ў адзін неабсяжны, асвечаны Богам Культ, які яна вызнавала, якому пакланялася, які ўсё жыццё шанавала і бараніла…

А сакрэту сямейнага шчасця я не ведаю. Я ведаю, што такое гора і якое яно страшнае, калі сонца, што свяціла ў доме, раптам гасне і абрываецца ў чорную бездань.

# Сацыяльныя акцыі СМІ: польскі досвед у беларускіх рэаліях

**З дапамогай твайго сайту абаяльны нашчадак кокер-спаніэля і таксы знайшоў любячых гаспадароў? Чытачы тваёй газеты дапамаглі шматдзетнай самотнай маці сабраць дзяцей у школу? Проста здорава! Але ты і твая рэдакцыя здольныя на большае. У гэтым перакананая Ганна Калтуновіч, каардынатарка сацыяльных праектаў і акцый польскай «Gazety Wyborczej».**



Марыя МАРТЫСЕВІЧ

Напрыканцы лютага шэраг журналістаў і грамадскіх актывістаў, зацікаўленых ладзіць сацыяльныя акцыі на платформе СМІ, наведалі адкрытую лекцыю «Як медыі могуць уплываць на грамадства», арганізаваную ў Мінску журналісцкай майстэрняй «Прэс-клуб». Для ўсіх астатніх — невялікае падсумаванне таго, што апавяла калегам спадарыня Калтуновіч, а таксама некалькі думак пра тое, як можна скарыстаць польскі досвед у беларускіх умовах.

Беларускім незалежным СМІ, безумоўна, блізкія ідэалы Адама Міхніка і яго каманды. Гэта, мусіць, асноўная прычына, па якой лекцыя Калтуновіч прывабіла беларускую аўдыторыю. У свядомасці палякаў «Газэта Выборча» цесна звязаная з маштабнымі сацыяльнымі акцыямі, якія спрычыніліся да рэформаў у многіх сферах жыцця ды змены жыццяладу ў Польшчы. «Чаму мы гэта робім? Бо “нам не ўсё адно”, — кажа Ганна Калтуновіч. — Гэты дэвіз пачынае кожны наш нумар».

Другая прычына зацікаўлення была больш канкрэтнай. Гаворка пра візітную картку «Выборчай» — акцыю «Нараджаць па-людску» («Rodzić po ludzku»). Яна стартавала ў 1994 годзе з падачы некалькіх журналістак і хутка перарасла ў магутную кампанію, якая працягваецца і сёння. У Беларусі маладыя маці задумаліся пра нешта падобнае толькі напрыканцы 2015 года. «Мы адстаём ад Польшчы на 20 гадоў», — заўважыла адна з актывістак




*Падчас кампаніі «Нараджаць па-людску» журналісты «Выборчай» займаліся анкетаваннем радзільняў, выяўляючы праблемы, з якімі варта змагацца. Было сабрана каля 40 000 водгукаў.*

нованароджанай ініцыятывы падчас дыскусіі. Кейс кампаніі «Нараджаць па-людску» быў падрабязна разабраны Ганнай Калтуновіч дзеля дэманстрацыі таго, як СМІ могуць уплываць на грамадства.

## Дзве гадзіны з матуляй

З расказанага Ганнай Калтуновіч у Мінску вынікае: сацыяльныя акцыі — справа салідарнасці неабыякавых людзей. А рэдакцыі СМІ — пагатоў незалежнага — найчасцей складаюць акурат салідарныя неабыякавыя людзі. І калі простым грамадзянам патрэбны час, каб зрабіцца камандай, выпрацаваць стратэгію, то ў сябраў рэдакцыі знітаванасць прысутная ад старту. Таксама журналісты з прычыны прафдэфармацыі надзвычай адчувальныя да несправядлівасці свету. А яшчэ важна тое, што таленавітым аўтарам і аўтарытэтнаму выданню чытачы без агаворак давяраюць. І вось раптам паўстае патрэба скарыстацца гэтым даверам, каб данесці свету нешта важнае, заклікаць людзей дзейнічаць… Праўда, знаёма? Калі такая патрэба з'явілася, не варта сябе стрымліваць — што б ні казала пра аб'ектыўнасць журналісцкая этыка, падбадзёрвае Ганна Калтуновіч.

Акцыя «Нараджаць па-людску» распачалася пасля таго, як адразу некалькі журналістак «Выборчай» з'ездзілі ў радзільні па скрутачкі, перавязаныя стужкай. Жанчын жахнулі ўмовы, у якіх яны апынуліся: дзяцей выдавалі маці толькі на кармленне, увесь час ад першых боляў да выпіскі жанчына заставалася без падтрымкі родных, ёй не дапамагалі наладзіць кармленне грудзьмі і малако знікала. Палякі ўжо вельмі добра ведалі, што на Захадзе радзільні больш гуманныя да парадзіх і немаўлятаў. Маладыя маці падзяліліся сваім абурэннем з калегамі, а тыя іх падтрымалі.

У выніку шматгадовай маштабнай кампаніі, якая трывае дагэтуль, польскія радзільні зрабіліся ўзорнымі для Еўропы. Як апошняе дасягненне у законе з'явілася прадпісанне акушэрам не забіраць дзіця на абмер і ўзважванне адразу пасля родаў, пакідаючы на першыя дзве гадзіны жыцця з маці і бацькам. Удзел шчаслівага таты ў працэсе мяркуецца сам сабою: партнёрскія роды цяпер магчымыя нават у маленькіх шпіталях у правінцыі.

Нягледзячы на акрэслены перыяд у дваццаць гадоў, сённяшнія праблемы беларускіх парадзіх не ідэнтычныя тым, што былі ў Польшчы ў 1990-х. Дзяцей аддаюць у палаты мацяркам, прынамсі у сталіцы. Партнёрскія роды (за грошы) таксама даволі шырока практыкуюцца. Тым не менш прэтэнзій




«Газэта Выборча» была заснаваная ў 1989 годзе як орган «Салідарнасці» дзеля асвятлення першых дэмакратычных выбараў у Сойм. Першы нумар выйшаў на васьмі палосах накладам 150 тысяч асобнікаў. З гадамі выгляд выдання змяніўся, а назва засталася. «Выборча» развіталася з «Салідарнасцю», а ў 1992 годзе паўстаў медыя-холдынг «AGORA», які аб'ядноўвае 32-старонкавы папяровы штодзённік з веерам тэматычных дадаткаў, інтэрнэт-партал, рэкламныя агенцыі, некалькі друкарняў, радыёстанцыю і сетку кінатэатраў. Дзейнасць холдынгу даўно сягнула па-за межы журналістыкі. Напрыклад, з 1997 года холдынг уручае галоўную недзяржаўную літаратурную прэмію Польшчы — «Ніка» (каля 25 000 у еўравым эквіваленце).




у нашых актывістак шмат. Найперш трэба мяняць само стаўленне дактароў і акушэраў да цяжарных і парадзіх, лічаць яны. У аддзяленнях гінекалогіі і радзільнях жанчыны зазнаюць псіхалагічны гвалт, прыніжэнне. Яны не могуць уплываць на метады родадапамогі, змушаныя рабіць безліч непатрэбных тэстаў і аналізаў. Жанчына ў схватках часта апынаецца аголенай перад незнаёмымі людзьмі, якія могуць, напрыклад, назіраць, як ёй ставяць клізму. У родзалу без згоды парадзіхі запускаюць студэнтаў, а ў саму залу ёй часта даводзіцца ісці пешкі па цёмным калідоры, абсалютна адной. Сваякі ўжо могуць наведваць парадзіх (зноў жа за грошы), але самім «пацыенткам» дагэтуль не дазваляюць выходзіць на двор.

На гэтым фоне кепскія побытавыя ўмовы, на якія таксама шмат наракання ў, — рэч другасная. Разруха, як той казаў, не ў клазетах.

Вельмі паказальна, што польская акцыя пачалася менавіта ў СМІ — галоўная праблема беларускіх радзільняў у тым, што там — як у турме: пра ўнутраныя парадкі можна даведацца, толькі прайшоўшы «па этапе». Жанчыны шмат гадоў пішуць абураныя водгукі на форумах бальніцаў, але каментары таямнічым чынам знікаюць, так і не трапляючы на вочы шырокай аўдыторыі.

Менавіта таму Вераніка Заў'ялава — ініцыятарка беларускай кампаніі — звярнулася праз сацыяльныя сеткі да жанчын, якія пішуць, з просьбай дзяліцца ўласным досведам на розных медыяпляцоўках, кантактаваць з парадзіхамі, якія зазналі псіхалагічны гвалт, даваць ім слова. Аднак на сустрэчы ў «Прэсклубе» яна зазначыла, што беларускія медыі не зусім зразумелі сутнасць яе закліку: «Мне патэлефанавалі тры журналісткі, якія прадстаўлялі адну і тую ж рэдакцыю, — расказала яна. — У мяне склалася ўражанне, што яны змагаліся між сабою за сенсацыю, ніякай салідарнасці, асабістага зацікаўлення праблемай не было».

Адсюль яшчэ адна выснова: акцыя СМІ, якая робіцца выключна для галачкі, рэйтынгу, ганарару або плюсіка ў карму, не можа быць паспяховай. Давядзецца гарэць. І гэта першае і асноўнае, што трэба зразумець журналісту, упрагаючыся ў воз сацыяльнай актыўнасці.

Яркі прыклад асабістай заангажаванасці журналістаў — сацыяльны праект «Радыё Свабода» «Жыццё пасля раку». Па словах аўтаркі праекта Ганны Соўсь, эмацыйным штуршком стала заўчасная смерць сябра і калегі Юрася Бушлякова: «Праект быў пакліканы прадэманстраваць, што, нягледзячы на трагедыю Юрася і іншых, рак — гэта не прысуд, а дыягназ».



Ганна Калтуновіч, каардынатарка сацыяльных праектаў і акцый польскай «Gazety Wyborczej»

## Журналісты бегалі ў парку

Яшчэ адна рэч, якая рабілася відавочнай па меры таго, як Ганна Калтуновіч пракручвала слайды прэзентацыі: чым прасцейшая прапанаваная ідэя, тым большы эфект яна будзе мець. «Як вы думаеце, як з'явілася ідэя акцыі "Польшча бегае" ("Polska biega")? Правільна! Журналісты бегалі ў парку!» Каля дзесяці гадоў таму рэдакцыя «Выборчай» асабістым прыкладам вырашыла натхніць сваіх чытачоў на занятак спортам. Не журналісты вынайшлі «джогінг», але яны прыдумалі, як больш эфектыўна несці здаровы лад жыцця ў масы. («Ці ў Беларусі бегаюць?» — шчыра пацікавілася Ганна Калтуновіч у публікі. — «Не — у нас хакей», — пачуліся галасы.)

Традыцыйным зрабілася бегаць кросы на майскія святы: любая арганізацыя або супольнасць можа абвясціць калектыўны забег, анансаваўшы час, месца і маршрут на спецыяльным сайце. У першы год адбылося 30 забегаў, падчас апошняй акцыі — каля 800. «Нам прыемна ўсведамляць, што палякаў, якія займаюцца бегам, робіцца ўсё больш», — кажа Ганна Калтуновіч.

Ці мела б такі самы поспех з такімі мінімальнымі выдаткамі акцыя «Польшча з клюшкай»? Або «Польшча на корце?» Наўрад — бо любы іншы спорт вымагае рыштунку, часам даволі дарагога, і без спонсараў тут не абысціся. А пару кедаў у гардэробе мае бадай кожны.

Ergo, не варта мудрагеліць, прыдумваючы шматузроўневыя сацыяльныя праекты, ажыццяўленне якіх вымагае пабудовы хмарачосаў на Марсе: чым прасцей, тым лепей.

## Дзецям пара дадому

Калі Ганну Калтуновіч просяць прывесці прыклад няўдалай сацыяльнай акцыі «Газэты Выборчай», яна з лёгкай скрухай называе ўласную — «Дзеткі дадому» («Dzieciaki do domu»).

На маю думку, прычынай правалу можна назваць менавіта складанасць задумы (хоць, як і ў выпадку з хакеем і тэнісам, складанасць зусім не азначае заганнасці). Які фармат звычайна маюць такія акцыі, у тым ліку ў Беларусі? Людзі купляюць выхаванцам інтэрнатаў слодычы і цацкі, ладзяць канцэрты. Гэта пад сілу кожнаму. Лялькі і цукеркі, аднак, не дапамагаюць наблізіць той дзень, калі дзіцячых дамоў у Беларусі не стане наогул, не вядуць да сацыяльных зменаў як такіх. Акцыя «Дзеткі дадому» прапанавала зірнуць у корань праблемы. І ў нас, і ў Польшчы ў дзіцячых дамах выхоўваюцца пераважна сацыяльныя сіроты. Варта працаваць з праблемнымі сем'ямі, каб проста не было прычыны забіраць у іх дзяцей, памеркавалі актывісты. Але, трэба думаць, такая праца — даволі цяжкі працэс, як маральна, так і ў плане рэсурсаў. Наўрад ці шмат людзей здольныя спрычыніцца. Нават калі дасягнутыя змены ў двухтрох месцах, на думку Ганны Калтуновіч, можна лічыць, што акцыя прайшла паспяхова. Напрыклад, да акцыі «Класная школа 2.0» («Szkoła z klasą 2.0»), пакліканай узбагаціць сярэднюю адукацыю інфармацыйнымі тэхналогіямі, за першы год працы далучылася 500 школаў па ўсёй краіне. У выпадку з акцыяй «Дзеткі дадому» ніякіх зменаў дасягнуць не ўдалося.

Магчыма, дзеля большага поспеху складанай сацыяльнай акцыі варта разбіць яе на прасцейшыя сесіі і дзейнічаць паступова. Не адразу Вільня будавалася.

## Час падаваць шклянку

Прычыны, па якіх розныя СМІ пачынаюць займацца «сацыялкай», падобныя да мэтаў, якія праследуе ў такім выпадку бізнес. Апроч уласна імкнення змяніць свет да лепшага, гэта таксама намаганні стварыць пазітыўны імідж медыярэсурса. Як паказала пытанне, зададзенае Ганне Калтуновіч з залы, у Беларусі сумняюцца, што «піярыцца» гэткім чынам да твару пристойнаму выданню. Біблія вучыць даваць міласціну непрыкметна, каб левая рука не ведала, што робіць правая. Калі ж рэдакцыя




*Рэклама акцыі «Па старым знаёмстве». Бабуля давала табе ласункі, калі ты была маленькай дзяўчынкай, намякае банер. Пара падаць ёй шклянку вады*

заклікае да рашэння нейкай гарачай праблемы, гэта аўтаматычна падвышае рэйтынгі. Ці не палююць польскія журналісты на клікі?

На думку Ганны Калтуновіч, усё наадварот: іх акцыі хутчэй прыцягваюць увагу да непапулярных тэмаў. «Як можна распіярыцца на такім?» — пытаецца яна, дэманструючы слухачам падвал «Выборчай» з анонсам сацыяльнай кампаніі «Па старым знаёмстве» («Po starej znajomości»). Палякаў заклікаюць пералічваць 1% ад падаткаў у спецыяльны фонд для паляпшэння ўмоваў у дамах састарэлых, стварэння грамадскіх пляцовак для пенсіянераў. Масы пакуль не ўсведамляюць старасць як вялікую праблему, але разумны чалавек глядзіць у будучыню. Грамадства старэе, з гадамі пенсіянераў робіцца ўсё больш. Гэта акцыя — і пра нас з вамі, падкрэслівае лектарка.

Так што, як кажа тая ж Біблія, не бойцеся. Рабіце дабро ў прайм-тайм.

## Манаполія на шчодрасць

Адкуль узяць грошы? Іх не трэба шмат, дзеліцца досведам Ганна Калтуновіч. Партнёры сацыяльнай акцыі бясплатна даюць рэсурсы, а ўзнагародай усім удзельнікам з’яўляецца імідж сацыяльна адказнага суб’екта і самі пазітыўныя змены, якія прынесла акцыя. Нейкую падтрымку можа аказаць бізнес, але асноўны бюджэт сацыяльных акцый у Польшчы забяспечвае закон, што дазваляе грамадзянам пералічваць 1% ад падатку на важныя для іх грамадскія мэты. Атрымліваць гэты працэнт могуць НДА, якія працуюць без парушэнняў і маюць адпаведны статус. І ў гэтым выпадку роля СМІ — пераканаць насельніцтва спансіраваць тыя ці іншыя ініцыятывы.

Цяжкасць беларускай сітуацыі ў тым, што дзяржава не толькі не ствараe падобных механізмаў мецэнацтва, але і пільнуе, каб грамадскія ініцыятывы, крый Божа, не атрымалі зашмат рэсурсаў для празмернай актыўнасці. Бескарысная дапамога ў нас можа паходзіць толькі ад дзяржавы, інакшай у душы людзей можа закрасціся шкоднае адчуванне, маўляў, існуе нейкая альтэрнатыва нашай вялікадушнай уладзе. Часам складаецца ўражанне, што ўлады раўнуюць народ да грамадзянскай супольнасці. Пра адну такую сцэну рэўнасці стала вядома напрыканцы 2014 года, калі раённыя ідэолагі забаранілі баранавіцкім вакальна-танцавальным калектывам удзельнічаць у навагоднім канцэрце. Толькі таму, што гэты канцэрт у Ляснянскім доме інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў арганізоўвала незалежная газета «Intex-press», рэдакцыя якой пяць год запар бачыць сваёй місіяй дапамагаць жыхарам інтэрната, абвяшчаючы пад Новы год збор падарункаў для старых і знямоглых.

«Ладзячы сацыяльную акцыю, мы змяняем сістэму. Нашы дзеянні для яе — як фермент для хімічнай рэакцыі. Сістэма не хоча мяняцца, яна супрацiўляецца — гэта нармальна», — тлумачыць Ганна Калтуновіч. Аднак парадокс беларускай сітуацыі у тым, што сістэма супраціўляецца, нават калі яе ніхто не чапае.

«Еўрарадыё» мае на мэце зрабіць сацыяльныя праекты часткай рэдакцыйнай палітыкі і ўжо працуе ў гэтым кірунку, пра што сведчыць, напрыклад музычная прэмія «Даём рады». Галоўны рэдактар ЕР Віталь Зыблюк перакананы: няма ніякай заганы ў тым, што медыі выбудоўваюць уласны пазітыўны вобраз праз сацыяльную актыўнасць: «Рэклама дзеля рэкламы, зразумела, непрыгожая рэч. Але калі журналісты дамагліся нейкіх зменаў да лепшага, і пра гэта стала вядома — у гэтым няма нічога кепскага».

## Навык салідарнасці

Тым не менш не ўсё так безнадзейна, мяркуе карэспандэнт «Еўрарадыё» Алесь Пілецкі: «Я думаю, беларускія СМІ таксама могуць спрабаваць рабіць сацыяльныя акцыі. Мажліва, па менш прынцыповых для ўлады пытаннях, чым у Польшчы, і не ў такіх маштабах, але гэта магчыма. Ёсць шмат праблем, у вырашэнні якіх зацікаўленыя і дзяржава, і грамадства. Таму, думаю, у нас СМІ маглі б паспрабаваць уздымаць важныя экалагічныя пытанні або звязаныя з рознымі відамі грамадзянскай адказнасці. Напрыклад, сацыяльная акцыя па падвышэнні культуры парковак у Мінску зацікавіла б і жыхароў горада, і міліцыю».

Асноўнай перашкодай, на думку журналіста, служыць чалавечы фактар: «У краіне пакуль не так многа СМІ, якія могуць сабе дазволіць сацыяльную актыўнасць. Шмат рэдакцый займаецца ў асноўным тым, што збірае чужы кантэнт і публікуе на сайце ці ў газеце. Іншыя маюць у штаце 10–15 журналістаў і не могуць сабе дазволіць 3–4 з іх пасадзіць на вялікі і доўгі праект».

Але і тут Ганне Калтуновіч ёсць што адказаць. «Аб'ядноўвайцеся», — раіць яна. Пошук кампаньёнаў — гэта тое, з чаго варта пачынаць любую акцыю, і шукаць іх варта паўсюль: сярод людзей, зацікаўленых у сацыяльных зменах, сярод чыноўнікаў, навукоўцаў, бізнесменаў, у рэлігійных суполках і тэматычных НДА. А яшчэ важна дзейнічаць адзіным фронтам з іншымі СМІ, бо ў наш час ніводнае асобнае выданне, канал або партал навінаў не будуць дастаткова аўтарытэтнымі. «Уплыў медый на грамадства зніжаецца і ў Польшчы: у "Выборчай" гэты паказнік за апошнія гады ўпаў у пяць разоў», — зазначае лектарка.

Досвед, які беларускім СМІ варта пераняць ад журналістаў «Газэты Выборчай», апісваецца адным-адзіным словам — салідарнасць. У справе сацыяльнай актыўнасці гэта — базавы навык, без якога наканавана разваліцца любой, нават геніяльна спланаванай грамадскай ініцыятыве.

Фота: Мікалай Жукаў

# СКАЗКА О ЦАРЕ

**Наша экономика напоминает сороконожку, которая может двигаться только по инструкции, доводимой до каждой ноги.**

Вот она как будто просыпается, хочется ей побежать к свету, теплу и пище… Но начать положено с изучения инструкции. А в инструкциях тех такого понаписано, что если одной ноге указано идти вперед, другой — непременно двигаться в сторону. Под угрозой уголовной ответственности, никак не иначе!

2015 год оказался уникальным в новейшей истории экономики Беларуси. В третий раз за суверенные годы (после 2005-го и 2012-го) страна свела внешнюю торговлю к положительному балансу экспорта и импорта и получила положительное сальдо — 205 млн долларов.

Свели концы с концами! Но «счастливый» баланс установился при обрушении экспорта на 24,7%, импорта — на 25,4%. На четверть меньше продали, на четверть меньше купили…

Впервые после 1996 года наш ВВП упал. Вернее, споткнулся — на минус 3,9%. Хотя прогнозировался пусть маленький, но рост: 0,2–0,7%.

Наступивший год обещает еще большую «стабилизацию». В январе ВВП сократился на 4,3%, промышленное производство упало на 6,8%, при этом складские запасы выросли с 68,7 до 86,2%. Как следствие, усилился дефицит оборотных средств предприятий, пополнить которые можно только за счет кредитов. Но кредиты не каждому предприятию по карману, да и с возвратом часто проблемы — денег нет.

При том что в экономике крутятся огромные деньги. Номинально. Так, в 2015 году организации получили почти 1,6 квадрильона рублей (огромное количество нулей — главная причина предстоящей деноминации). Суммарная задолженность организаций достигла 920 трлн рублей, из нее задолженность по кредитам и займам увеличилась до 570 трлн рублей. Просроченная задолженность (которую надо было заплатить еще вчера) составила 15 трлн рублей.

Директорат предприятий мучается вопросом, где найти деньги, чтобы вернуть долги, «облагородить»

# И ЕГО ЧИНОВНИКЕ БАЛДЕ

кредитную историю и… получить доступ к новым кредитам. Банкиры тоже страдают от неведения: отдадут — не отдадут, давать — не давать, кому, когда и сколько. Получается, никому не спокойно в Беларуси.

Премьер Кобяков сообщил, что возобновляется работа так называемого клуба кредиторов — площадки, на которой подготовят меры по стабилизации предприятий, финансовое здоровье которых пошатнулось. Но вот «инструкция» для тех, что на финансовое оздоровление понадеялись, надежды разбивает. «Необходимым условием для этого является прежде всего снижение затрат, разгрузка складов, комплексная реализация мер по финансовому оздоровлению», — предупредил премьер. Иначе говоря, сначала надо самооздоровиться, а уж потом просить помощи и, возможно, вам помогут. Байнет весело откликнулся на этот спич премьера, который повторил сочиненную Ильфом и Петровым иллюстрацию простого товарооборота: утром — деньги, вечером — стулья…

Время суровое, дела конкретные. Например, чтобы разгрузить склады, надо бы снижать цены до уровня, на котором появится платежеспособный спрос. Этот радикальный и единственный способ оживит «мертвый капитал». Не полностью, но частично — даст возможность получить живую копейку, заплатить долги, выплатить зарплату. И… получить кредит. Для чего? Чтобы возобновить производство прежней продукции, которая пойдет на склад?

## Сам себе менеджер

Да, лозунг «Все созданное народом должно быть продано!» сохраняется, но как цель, бесконечно уходящая за горизонт. Как некогда призрак коммунизма.



Константин СКУРАТОВИЧ

У нас работники получают зарплату независимо от того, что произведенная ими продукция не продается. Как сообщают «рабселькоры» социальных сетей, государственные наниматели-распорядители все чаще вынуждают работников к официальному оформлению уменьшения зарплат по их же «собственному желанию». Позвольте себя высечь… Разумеется, под угрозой неперезаключения срочного контракта или по другим поводам.

Но это не может продолжаться долго. В «призраке» такого товарно-денежного оборота виновато начальство вообще и правительство в частности. Персонально Лукашенко, который перед экономикой ставит цели. Не рынок, не потребители определяют «ассортимент» продукции — высший чиновничий аппарат навязывает технологии производства, пробует контролировать и управлять финансами предприятий и финансами страны.

Президент же требует за два года довести объем экспорта в Индию, Китай, Иран, страны Персидского залива, Африки, Латинской Америки, США до 5 млрд долларов.

Так вот, в прошлом году только Китай из составленного Лукашенко перечня вошел в десятку основных внешнеторговых партнеров Беларуси, где занял четвертую позицию (5,6% товарооборота). Чуть выше позиция Украины (6,1%), но меньше у Соединенного Королевства (5,5%), Германии, Нидерландов, Италии, Польши, Литвы, Латвии, которым территориальной близостью, налаженными традиционными контактами и прочим предназначено быть естественными партнерами Беларуси. Экспорт в Китай составил около 800 млн долларов, импорт оттуда (это второй

после России показатель) — 2,3 млрд. С Россией давно все понятно — у Беларуси хроническая сырьевая зависимость от этой страны, но вполне очевидно формируется техническая и технологическая зависимость от Китая. Без китайского импорта уже не может обойтись промышленность, строительство, население. И нам невозможно конкурировать с Китаем в Китае, Индии, странах Персидского залива, Африке, Латинской Америке, в США. И в Беларуси.

## Покушение на последнюю рубашку

Интересная деталь. Над программой тотального внедрения контрактной системы усердствовал бывший председатель ФПБ Леонид Козик. Трудовое законодательство изменили, официальные профсоюзы вернули себе прежние функции: обучение трудящихся ударному труду и управление солидными профсоюзными активами.

Живя на гарантированные главой государства дивиденды, председатель ФПБ пустился в дешевую и льстивую демагогию. Предложил номинировать Лукашенко на Нобелевскую премию в области экономики за «идею о необходимости построения социально-ориентированного государства». Мол, традиционные представители научного сообщества «мыслят старыми стандартами и выдают за новейшие достижения в области экономики такие решения, как рост цен на товары и услуги, отсутствие контроля государства за экономическими процессами, снижение уровня жизни населения». Словом, поддерживают буржуазные идейки, которые губят мир.

Разразившийся в 2011 году системный валютный кризис Козик отнес на счет временных неурядиц: «Какой может быть кризис, когда ВВП растет, предприятия работают, массовой безработицы не допущено? Возможно, кому-то выгодно нагнетать обстановку в обществе и сеять панику. Но подобные страшилки далеки от реальной обстановки в стране».

Сейчас очевидно, что «временные неурядицы» стали нормой жизни — обвал производства ВВП, приостановление работы предприятийя при накоплении складских запасов, кризис сбыта, вымывание оборотных средств, растущая безработица и растущие цены, сокращение социальных программ… В итоге — резкое падение реальных доходов населения.

Государство фактически отказалось от своих социальных обязательств. Теперь оно думает не о том, что может дать населению, но о том, сколько с него взять для своих нужд. Это отказ от государственного патернализма (наш президент самый заботливый в мире) в пользу государства-фискала, озабоченного только сбором дани для корыстолюбивого князя-неудачника и его алчной дружины. Прежние патриархально-доверительные отношения князя и подданных переводятся в денежное русло. Ему позарез нужны деньги. А денег нет: поскольку князь не позволил холопам богатеть, они и разорились.

## Метания «от балды»

Как создавать рыночную, конкурентоспособную, эффективную экономику, нынешняя высшая власть не думает. Не до того: нам бы день простоять да ночь продержаться.

И условия, под которые обещают кредиты, интерпретируются в связи с этим «государственным» лозунгом в трагикомичные ситуации.

Последний пример. Уступая требованиям МВФ провести реформу ЖКХ (одно из условий для получения кредита от этой организации), правительство рассчитало комплексную себестоимость получаемых населением услуг и определилось, сколько платить в этом году для выхода на возмещение населением всех издержек к установленному сроку. Бедный в основном народ высокими цифрами возмутился, потребовал от чиновников комментариев. И, чуя недовольство народа, Лукашенко разразился угрозами в адрес своих подчиненных. Мол, занимаются приписками, чтобы украсть деньги из бюджета легальным путем. «Публично посадите десяток человек. Все станет на свои места. Тут должен быть список, кто эту “балду” придумал», — указал президент. Вскоре при общении с дипломатами вновь вернулся к коммунальной теме: «Переработка — это выгодная вещь, у нас в очереди стоят, чтобы перерабатывать. За что же платить? …А у нас статья за это, за это надо сажать».

На самом деле переработка отходов не такое уж и прибыльное дело. Например, стекольные заводы затоварились стеклобоем, на который нет спроса ни в стране, ни за рубежом. Концерн «Беллесбумпром», который занимается переработкой макулатуры, имеет годовую дебиторскую задолженность, нуждается в пополнении оборотных средств, но при нынешних ставках кредитования, как считают специалисты, даже заготовка вторичных материальных ресурсов для него экономически нецелесообразна.

В экономике происходит много «нецелесообразного», когда производят негодную продукцию. Нельзя ли по этой причине организовать на предприятиях цеха для ее выгодной переработки во вторичное сырье? Сделай так «от балды» — и польза выйдет.

# Государство — шлагбаум на пути в современность

**На технологические вызовы четвертой промышленной революции «белорусская модель» отвечает деградацией.**


Сергей НИКОЛЮК

Истины могут быть банальными и оригинальными, бесспорными и сомнительными. «Волга впадает в Каспийское море. Лошади кушают овес и сено» — пример банальных истин из рассказа Чехова «Учитель словесности».

А теперь тест на IQ. К какому типу истин следует отнести утверждение: «На дворе XXI век»?

Без дополнительной информации правильный ответ не сформулировать. На каждом «дворе» свое историческое время. На дворе ислама — средневековье. Для типичного представителя исламской культуры все противоречия мира сгруппированы вокруг двух полюсов. Первый полюс — Аллах, второй — шайтан. Между полюсами существует мощное «силовое поле». Оно наполняет существование человека смыслом, ради которого он может не только убивать других (неверных), но и пожертвовать собственной жизнью.

В аналогичном «силовом поле» жили и европейцы в эпоху средневековья. Это под его воздействием совершались крестовые походы и велись многочисленные религиозные войны. Но к концу средневековья между двумя полюсами биполярного мира в европейской культуре стал формироваться третий. Этим полюсом стал сам человек. Проблема прав человека оказалась в центре европейской культуры.

Основные этапы этого процесса нам хорошо известны: Ренессанс, Реформация и Просвещение. «Европейский Модерн, — отмечает культуролог Андрей Пелипенко, — не только полностью оправдал все проявления человеческой натуры, но и постепенно “перекачал” в человека все атрибуты божественного Абсолюта (как, впрочем, и противоположного полюса — дьявольского)».

Территорию нынешней Беларуси Ренессанс и Реформация если и задели, то по касательной, а Просвещение обошло стороной. Спасибо России. В результате культурное сознание белорусов, с одной стороны, сохранило средневековую основу, а с другой — под влиянием западного соседа впитало отдельные элементы модернизации, что породило раскол в обществе.

Вера в божественный Абсолют умерла. Попытка коммунистической идеологией заменить рай небесный на рай земной провалилась, оставив белоруса наедине с миром, погрязшим во зле и грехе. Сбой исторических часов сделал жизнь человека бесцельной и бессмысленной. Массовый алкоголизм — одно из следствий выпадения из исторического времени, поэтому не следует удивляться, что по количеству потребляемого спирта на среднестатистическую душу белорусы лидируют в Европе.

## У каждой ноги — своя функция

В центре внимания очередного Всемирного экономического форума в Давосе в 2016 г. оказалась четвертая промышленная революция. В ходе первой с помощью паровой машины было механизировано производство. Главный драйвер второй революции — электричество, третьей — электроника и информационные технологии.

По мнению основателя форума экономиста Клауса Шваба, сегодня человечество стоит на пороге новой технологической революции, «которая кардинально изменит то, как мы живем, работаем и относимся друг к другу. Подобного масштаба и сложности перемен человечеству еще никогда не доводилось испытывать». Ответственность

за перемены экономист возложил на технологии четвертой промышленной революции, стирающие грани между физическими, цифровыми и биологическими сферами.

Несложно заметить, что родиной всех революций стал Запад. Попытаемся разобраться в причинах столь неординарного явления.

По мнению английского статистика Ангуса Мэддисона, на старте первой промышленной революции в 1800 г. подушевой ВВП в Европе был не выше, чем в Римской империи. Таким образом, интенсивный экономический рост — это относительно новое явление. Ему отроду два столетия.

До изобретения и массового внедрения паровой машины темпы экономического роста не опережали темпы роста населения. Следовательно, имел место исключительно экстенсивный рост. Однако вклад паровой машины в переход от экстенсивного к интенсивному росту не следует преувеличивать, так как сама паровая машина есть не более чем частное следствие процесса формирования нового социокультурного типа человека. В культурологии этот тип человека принято называть личностью, или личностью европейского типа.

Для человека доличностной культуры самым страшным испытанием является ситуация, требующая выбора. Вспомним библейскую историю о дереве познания Добра и Зла. Вкусив запретный плод, наши прародители впервые столкнулись с необходимостью выбора, и наличие этой необходимости оказалось несовместимым с жизнью в раю.

Поэтому не стоит удивляться маниакальному стремлению человека доличностной культуры уклоняться от ситуаций, требующих выбора. Неличность ищет не свободы, а «хозяина получше». Именно на такой тип человека опираются современные тоталитарные и авторитарные политические режимы. Как это происходит на практике, мы имеем возможность регулярно наблюдать во время так называемых выборов.

В 2013 г. в Беларуси было модно рассуждать о модернизации. Тон, естественно, задавал глава государства (см. табл.). Модернизация по-белорусски — это «обновление того, что нам осталось от прежних поколений. От технологичной страны, которая была лидером в своем развитии. И мы это не загубили. Но пришло время обновлять» (Из ежегодного Послания президента А. Лукашенко, 2013 г.).

Термин «модернизация», если смотреть на него буквально, означает приведение чего-либо в соответствие с современным положением дел. Лишь небольшое количество стран никогда не нуждалось в модернизационных рывках в силу способности генерировать современность. Они лидеры. Догонять им просто некого.

«Представим себе страны, — поясняет на примере социолог Георгий Сатаров, — как неких пешеходов, двигающихся в будущее. Я утверждаю, что впереди этой колонны идут страны, являющиеся пешеходами о двух ногах. Первая нога — достаточно эффективное государство, вторая — развитое гражданское общество». У каждой ноги — своя функция. Первая отвечает за целостность и стабильность системы, вторая обеспечивает адаптацию к внешним и внутренним вызовам.

Будущее принципиально непредсказуемо, поэтому игроку со случайной стратегией (будущему) способна эффективно противостоять только альтернативная случайная стратегия. Ее обеспечивает гражданское общество. Хаотически организованное, оно порождает запас инноваций — технических, социальных, культурных и т. д.

У гражданского общества имеется еще одна важная функция — контроль государства (власти). Постоянно фиксируя и диагностируя проблемы, оно осуществляет давление на власть, побуждая ее использовать институциональные, технологические и культурные инновации. Тем самым гражданское общество постоянно расшатывает жесткую решетку социального порядка, которую пытается создавать власть, реализуя свою базовую функцию обеспечения стабильности.

Таков механизм поддержания динамики в странах, не нуждающихся в модернизационных рывках. Понятно, что в Беларуси он надежно заблокирован родным государством, понимающим стабильность как неизменность.

## «А иначе как?»

До 1800 г. страны-лидеры по показателю подушевого ВВП опережали страны-аутсайдеры в 4 раза, в настоящее время — в 100 и более раз. Четвертая промышленная революция сделает разрыв между «двуногими» и «одноногими» странами практически непреодолимым.

**Частота употребления слова «модернизация» в посланиях А. Лукашенко**

| 2004 | 2005 | 2006 | 2007 | 2008 | 2009 | 2010 | 2011 | 2012 | 2013 | 2014 | 2015 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | 3 | 2 | 6 | 3 | 3 | 9 | 9 | 6 | 59 | 19 | 3 |




Сколько ни говори «халва», во рту от этого слаще не станет. С белорусской моделью экономического развития (таково ее официальное название) та же история: сколько ни говори «развитие», ничего путного с развитием не получается.

На одной ноге далеко не ускачешь. Белорусское государство — и жнец, и жрец, и на дуде игрец. Оно — единственный субъект, и свое положение монополиста готово защищать до последнего патрона. За примерами далеко ходить не надо. 3 марта Лукашенко согласовал назначение ректоров вузов. Естественно, речь зашла о проблеме практического внедрения научных разработок. В рамках властной «вертикали» персональная ответственность за внедрение научно-технических достижений возложена на председателя Президиума Национальной академии наук. «Он пришел, — пояснил Лукашенко, — дал задание промышленникам. И пусть только не сделают. А иначе как? Руководитель не хочет, ученый не может или боится — и будем телепаться».

«А иначе как?». В жестких авторитарно — тоталитарных системах иначе и не бывает. Дал команду рыть котлован. Все тут же похватали лопаты, тачки и приступили к выполнению задания. Но контроль дисциплины при этом должен быть жесточайшим. Без контроля побросают инвентарь и разбегутся.

По такому принципу в годы сталинской индустриализации в СССР были вырыты тысячи котлованов под фундаменты промышленных предприятий. Сами же предприятия возводились под руководством западных специалистов. Своими силами достижения второй промышленной революции большевикам было не освоить.

С третьей промышленной революцией вышла осечка. В условиях «холодной войны» возможности для закупки западных технологий оказались крайне ограниченными, поэтому в соревновании «двух систем» двуногие победили одноногих за явным преимуществом.

Формально «вторая нога» в Беларуси существует. Приведу фрагмент выступления Лукашенко на идеологическом семинаре в марте 2003 г.: **«Наше гражданское общество опирается на недавно избранные Советы депутатов, профсоюзы и молодежную мощную организацию** (выделено в официальном тексте доклада. — *С.Н.*) и ее союзников. Вот три основные опоры нашего общества, которые призваны обеспечить связь народа с органами власти, вовлекая граждан в активное государственное строительство вместе с другими участниками политического процесса и осуществляя контроль за теми структурами власти, которые имеют много этой власти и распоряжаются материальными ресурсами».

Каким образом у нас формируются выше перечисленные организации, полагаю, можно не объяснять. Божий дар не следует путать с яичницей, а «приводные ремни» (по Ленину), функционирующие на государственные деньги и под непосредственным государственным контролем, со структурами гражданского общества.

Обеспечить адаптацию ко внешним и внутренним вызовам «приводные ремни» не в состоянии», ибо,



сильного государства, четкой управляемости», — заявил министр иностранных дел Беларуси в интервью «Советской Белоруссии» 18 февраля. Логика министра понятна. Вот только «сложный переходный период» — это не временное явление в развитии современных авторитарных режимов. И неспециалисту понятно, что по мере ускорения «двуногих» стран сложности у «одноногих» будут лавинообразно нарастать.

Но продолжу цитировать министра: «Мы должны что-то где-то подшлифовать, усовершенствовать, мы к этому готовы и готовы разговаривать с нашими партнерами об этом. Но они также должны учитывать менталитет и традиции нашего общества и не торопить события».

являясь по факту частью государства, свои главные усилия они направляют на поддержание стабильности.

Не случайно свой взгляд на гражданское общество Лукашенко изложил на идеологическом совещании. Для понимания истинной роли идеологии в жизни белорусской модели нам потребуется обратиться к Информационному бюллетеню Администрации президента (№ 4 за 2003 г.) Откроем его на странице 49, прочтем слова Лукашенко: «Идеологическая работа обеспечивает не только интересы общества и народа, но во многом и власти. Если хотите, удержание власти. Наверно, один раз уже потеряв власть, — речь идет о вас, у меня власти не было, а у некоторых из вас была, — вы понимаете, что это такое… **Поэтому надо не только удерживать власть. И не только удерживать, но и защищать. И лучше всего это делать идеологическими средствами»** (выделено в тексте бюллетеня. — *С.Н.*).

## Вот такая динамика

Удерживать личную власть любой ценой и при этом обеспечивать устойчивое развитие общества еще никому не удавалось. Поэтому нет ничего удивительного в том, что с задачами третьей промышленной революции удалось успешно справиться только «двуногим», т. е. демократическим странам. Примеры Южной Кореи, Японии и Тайваня наглядно продемонстрировали предел модернизационных возможностей авторитарных режимов. На стадии второй промышленной революции экономическое развитие они обеспечивали, но следующий шаг в современность потребовал коренных изменений политических систем.

«Мы всегда говорили о том, что сложный переходный период может быть обеспечен только в рамках

Таков уровень понимания главного вызова современности далеко не последним человеком во властной «вертикали».

Главный вызов современности — это вызов со стороны стран (культур), порождающих динамику. Как уже отмечалось выше, впервые он был сформулирован в ходе первой промышленной революции в начале XIX века.

Но какой бы порядковый номер ни присваивался последующим революциям, только наивные люди могут полагать, что «наши партнеры» кому-то что-то должны. Они просто заняты решением текущих вопросов, а то, что мы со своим менталитетом и традициями не успеваем осваивать чужие достижения, так это исключительно наши проблемы.

Менталитет и традиции не следует рассматривать в качестве константы. Сомневающимся рекомендую прочитать книгу отца сингапурского чуда Ли Куан Ю «Сингапурская история: из “третьего мира” — в “первый” (1965–2000)». Книга имеется в интернете. Я же ограничусь одной цитатой: «Приспособление к новым условиям давалось нелегко и зачастую вело к комичным, даже абсурдным результатам. Несколько фермеров, разводивших свиней, не могли расстаться со своими животными и забрали их в многоэтажные дома. Надо было видеть, как некоторые из них гоняли свиней по лестницам многоэтажных зданий».

За 35 лет жители Сингапура сумели не просто приспособиться к новым условиям, но войти в первую десятку стран по ВВП на душу населения. Беларусь по итогам 2014 года заняла 64 место, а по итогам 2015 года — 81 (по данным МВФ). Вот такая динамика! Динамика деградации.

Фото: Сергей Балай

# Василий Песков,

## легенда фотожурналистики, был связан с Беларусью добрыми узами дружбы

**Брестчанка Мария Федоровна Апанович когда-то крепко связала свою судьбу с Брестской крепостью и по сей день считает, что годы работы там были самыми счастливыми в ее жизни.**



Николай АЛЕКСАНДРОВ

Совсем молодой пришла она туда на штатную должность фотографа, но работала поначалу преимущественно экскурсоводом, хотя фотоаппарат «Зоркий» был ее неразлучным спутником. Она любила искусство съемки, живую натуру, людей, которых запечатлевала в кадре. И экскурсии проводила — без всяких шпаргалок и конспектов. Читала много, память была хорошая.

Те годы — начало 1960-х и далее — дарили ей немало интересных встреч. Цитадель над Бугом становилась многолюдным объектом посещений благодаря бессмертной книге Сергея Смирнова «Брестская крепость». Сюда приезжали участники обороны и их родственники, космонавты, историки и краеведы, поэты и артисты, официальные делегации, юные поисковики, гости из зарубежья, журналисты и фотографы — прикоснуться к памяти, увидеть руины фортеции и стены, испещренные пулями.

Больше всего приезжих было в круглые исторические даты. Так случилось и в 1969 году, когда Брест отмечал 950-летие. Гости один за другим прибывали в Брестскую крепость. Но Марии Федоровне как-то особо лег на душу приехавший из Москвы, из «Комсомольской правды», коллега-фотограф — Василий Михайлович Песков, сегодня — легенда фотожурналистики.

Открытый, простой, дружелюбный, великолепный мастер своего дела, он сразу же расположил к себе брестчанку. Мария стала для него не просто экскурсоводом по цитадели, но постоянным спутником в съемках. У него был фотоаппарат «Киев». Для нее эта совместная работа с Песковым стала, как бы теперь сказали, мастер-классом фотожурналистики. Он искал необычные ракурсы, во все вглядывался пристально, предельно внимательно, неутомимо щелкал затвором фотокамеры. Однажды даже сумел уговорить военных и полетал над крепостью, снимая ее с высоты птичьего полета.

Она тогда и не знала, а он ей не хвастался, что в 1964 году был награжден Ленинской премией за книгу очерков «Шаги по росе», но, будучи большим любителем всего цветущего, летающего и поющего, Мария постоянно читала в «Комсомольской правде» его рубрику «Окно в природу». Даже мечтала стать ихтиологом, но не получилось поступить в институт в Калининграде по этой специальности.



*Мария Федоровна Апанович*




Много говорили с Василием Михайловичем, он рассказывал о своих путешествиях — в ближнее и дальнее зарубежье. Мария и сама любила странствия, заслушивалась. В последующие годы она немало полетала и поездила по Советскому Союзу — Кольский полуостров, Средняя Азия, Сибирь, Дальний Восток…

Уехав в Москву, Песков прислал ей эти негативы, сохранив добрую дружбу и приязнь на последующие времена. Позже он присылал ей свои книги с дарственными надписями, писал письма. Увы, не все сохранилось у брестчанки в беге дней, но осталось самое существенное — негативы в отдельном конверте с обозначением, от кого они получены. Мы их отсканировали и обнаружили на фотографиях неповторимый «почерк» Пескова. На этих снимках Брестская крепость — в нераздельном слиянии с природой, которую он так любил. И композиционно они безупречны.

Кстати, по поводу найденных негативов я сообщил своему другу и однокурснику по отделению журналистики Дальневосточного государственного университета, где пару лет поучился до Литинститута, гендиректору Издательского дома «Комсомольская правда» Владимиру Сунгоркину. Он очень заинтересовался находкой, ведь в «КП» Василий Песков до сих пор — культовая фигура, и попросил прислать ему сканы фотографий с подготовленным нами материалом. А брестчанке Марии Федоровне Апанович он обещал передать изданный «КП» пятитомник В. Пескова.

**Василий Михайлович Песков** (14 марта 1930 г. — 12 августа 2013 г.) — советский писатель, журналист, фотокорреспондент, тележурналист, телеведущий программы «В мире животных» (1975–1990), путешественник. Лауреат Ленинской премии (1964) за книгу «Шаги по росе» и премии Правительства Российской Федерации 2013 года в области средств массовой информации (посмертно).
С 1956 года — обозреватель газеты «Комсомольская правда». Был постоянным автором рубрики «Окно в природу». Автор книг: «Таёжный тупик» (документальная повесть о семье отшельников Лыковых), «Сестра Аляска: к 250-летию открытия Аляски русскими мореходами», «Плата за выстрел», «Русский след: Охотоморье, Камчатка, Командорские острова, Аляска, Алеутские острова» (в соавторстве с М. Жилиным), «Странствия», «Окно в природу» (в двух книгах, 2001; в семи книгах, 2010) и др.



*Брестская крепость. Фото с вертолета*

# ЗАПРАШАЕ

# праграма міжрэдакцыйнага абмену

**Фонд развіцця СМІ *(Media Development Foundation)* і праект *Mymedia* ладзяць праграму міжрэдакцыйнага абмену для студэнтаў факультэтаў журналістыкі і маладых журналістаў з вопытам працы не болей за пяць гадоў.**

Прапануецца стажыроўка ў рэдакцыях лепшых тэле-, радыё-, анлайн і друкаваных СМІ Украіны ды ўдзел у трэнінгах і майстар-класах ад вядучых украінскіх і замежных медыяэкспертаў, журналістаў і рэдактараў.

Стажыроўка доўжыцца ад двух тыдняў да двух месяцаў. Удзельнікам праграмы выплачваецца стыпендыя памерам 560 еўра для украінцаў і 650 еўра для слухачоў з іншых краін.

Прэтэндэнты на ўдзел у праграме павінны добра валодаць хаця б адной з моваў трэнінгаў: рускай, украінскай ці ангельскай.

Стажыроўкі будуць праходзіць у некалькі этапаў, дэдлайны для падачы заявак – 20 траўня, 20 жніўня і 20 кастрычніка.

Падрабязней чытайце на сайце baj.by.

